Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 2 (4905) 13 студзеня 2017 г.



***У гэтыя калядныя дні ў сталічным Палацы Рэспублікі Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўручыў прэміі «За духоўнае адраджэнне» і спецыяльныя прэміі. Па выніках мінулага года прысвоена 5 прэмій «За духоўнае адраджэнне». Сярод лаўрэатаў — загадчык кафедры архітэктуры жылых і грамадскіх будынкаў Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта Сяргей Сергачоў, які стварыў адмысловую кнігу «Народное зодчество Беларуси. История и современность». Праца над выданнем ішла адначасова з практычнай дзейнасцю аўтара па захаванні аб'ектаў народнага дойлідства, якія маюць гістарычную і мастацкую каштоўнасць.***



Фота БелТА.


Іван Паўлаў. Партрэт Янкі Купалы. Гравюра 1931 г.

# Купалаў год? Купалава эпоха!

## Святкаванне 135-годдзя з дня нараджэння Песняра пройдзе ў розных краінах свету

**Родны і блізкі, знаёмы з дзяцінства і такі шчымліва-шчыры. І ў той жа час — містычны, загадкавы і, бадай, амаль невядомы. Для кожнага з беларусаў імя нашага народнага паэта Янкі Купалы — дарагое. Таму невыпадкова, што імпрэза Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы з нагоды пачатку Купалавага года атрымалася шчырай і ўтульнай.**

Дзіўны парадокс: прамаўляючы афіцыйныя словы, кожны з выступоўцаў здолеў укласці ў іх і ноткі асабістага стаўлення да асобы і спадчыны песняра.

— На мой погляд, Год культуры яшчэ працягваецца — у выдатных імёнах, зорках нашай культуры, — зазначыў міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў. — Янка Купала, чый псеўданім звязаны з Купаллем, як і гэтае летняе свята ў беларускім народным календары, займае адно з найярчэйшых месцаў на небасхіле нашай літаратуры. Для мяне Купала заўсёды быў прыкладам самаадданага служэння радзіме. Яго іпастась знакавая — як мастака, грамадскага, палітычнага дзеяча, які ў сваёй працы імкнуўся вярнуць краіне і народу пачэснае месца паміж іншымі народамі свету. Думаецца, варта клапаціцца пра тое, каб яго спадчына і запаветы заставаліся каштоўнымі не толькі для нашых сучаснікаў, але і нашчадкаў.

Працяг на 2-й стар. ▶

## Пункцірам

✔ Стыпендыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на 2017 год назначаны 99 перспектыўным маладым аспірантам, якія выконваюць дысертацыйныя даследаванні па прыярытэтных напрамках навуковай і навукова-тэхнічнай дзейнасці. Адпаведнае распараджэнне падпісаў кіраўнік дзяржавы. У ліку аспірантаў і прадстаўнікі гуманітарных навук. Вынікі гэтых дысертацыйных даследаванняў апублікаваны ў навуковых выданнях, прадстаўлены на рэспубліканскіх і міжнародных канферэнцыях і сімпозіумах. Прынцыпе распараджэння накіравана на падтрымку маладых навуковых кадраў, развіццё навуковых школ і навуковага патэнцыялу краіны.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расіі Канстанціна Хабенскага з юбілеем. «Дзякуючы прыроднай абаяльнасці, артыстызму і адданасці выбранай справе Вы сталі адным з самых вядомых і любімых публікай сучасных акцёраў. За гады плённай працы Вы змаглі ўвасобіць шмат разнапланавых характараў у спектаклях, фільмах і тэлесерыялах, якія заваявалі шырокае прызнанне гледачоў», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што Канстанціна Хабенскага на беларускай зямлі ведаюць і любяць як выдатнага артыста.

✔ Больш як 5,5 тыс. аб'ектаў спадчыны ў Беларусі маюць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці, паведамілі ў Міністэрстве культуры. Для захавання і папулярызацыі беларускай культуры ў свеце, пашырэння прысутнасці беларускіх аб'ектаў у спісе Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА рэалізуюцца мерапрыемствы па распрацоўцы дасье аб'ектаў для ўключэння ў Спісы сусветнай спадчыны. Падрыхтоўку матэрыялаў прадугледжвае Дзяржаўная праграма «Культура Беларусі» на 2016 — 2020 гады. Плануецца, што ў Цэнтр сусветнай спадчыны Беларусь прадставіць да 2020 года не менш як 5 дасье.

✔ Дзень культуры Беларусі 10 студзеня ўпершыню прайшоў у сакратарыяце Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва. Мерапрыемства адбылося напярэдадні 25-годдзя ўсталявання беларуска-кітайскіх дыпламатычных адносін. Генеральны сакратар ШАС Рашыд Алімаў падчас цырымоніі адкрыцця адзначыў, што Беларусь — краіна з найбагацейшай гісторыяй і культурай, беларускі народ беражліва захоўвае і развівае нацыянальныя традыцыі, натхняецца лепшымі дасягненнямі сусветнай цывілізацыі.

✔ У італьянскім горадзе Кальяры стартавалі мерапрыемствы, прысвечаныя Году беларускай культуры на Сардзініі. Чакаюцца літаратурныя сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, канцэрты ансамбля народнай музыкі «Рагнеда» Заслаўскага ГДК, фотавыстаўкі і выстаўка нацыянальнага рамяства, удзел беларускага хору ў Міжнародным фестывалі харавых спеваў духоўнай музыкі «Каледж Каларытанум» і беларускай фальклорнай групы ў Міжнародным фальклорным фестывалі Сардзініі, а таксама прэзентацыя мастацкіх фільмаў беларускіх аўтараў. У Мінску пройдзе шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных культуры гэтага італьянскага рэгіёна.

✔ Міністэрства ўнутраных спраў аб'явіла аб правядзенні конкурсу на лепшае асвятленне ў сродках масавай інфармацыі дзейнасці органаў унутраных спраў і ўнутраных войскаў, прысвечанага 100-годдзю з дня ўтварэння беларускай міліцыі. Удзельнікамі могуць стаць рэдакцыі, творчыя калектывы і асобныя журналісты, тэлеаператары, фотамайстры СМІ, інтэрнэт-сайтаў, пазаштатныя аўтары.

# Купалаў год? Купалава эпоха!

Да захавання памяці пра Купалу з трапятаннем ставяцца не толькі нашы суайчыннікі, але і беларусы, якія жывуць у іншых краінах свету. Доказам таму — хаця б праца музея Янкі Купалы ў Пячышчах, непадалёк ад Казані, дзе класік некаторы час пражыў у гады Вялікай Айчыннай вайны. А беларусы, якія жывуць у Расіі, час ад часу адшукваюць прадметы, звязаныя з яго постаццю, лёсам і спадчынай. Так, падчас вечарыны адбылася прэзентацыя партрэта Янкі Купалы работы рускага мастака Івана Паўлава, які ў дар мінскаму музею класіка перадаў старшыня Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расіі» Сяргей Кандыбовіч.



Фота Яўгена Пясецкага.

*Дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч уручае спецыяльны сертыфікат дапамогі музею старшыні Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расіі» Сяргею Кандыбовічу.*

— Мне падаецца, што мы жывём у эпоху Янкі Купалы, бо фактычна кожны год для нас праходзіць пад зоркай песняра, пад знакам духоўнасці беларускага народа, — падкрэсліў Сяргей Львовіч. — Духоўнасць беларусаў працята любоўю да сучаснасці, трапяткім стаўленнем да гісторыі і ўпэўненасцю ў будучыні. Таму сіламі нашай нацыянальна-культурнай аўтаноміі і мы імкнемся рабіць унёсак у адраджэнне і развіццё розных аспектаў культуры беларусаў. Дагэтуль не вядомы партрэт Янкі Купалы мы набылі летась у складзе лота ў Аўкцыённым доме ў Маскве. На вялікае шчасце і радасць, у ліку іншых гравюр мастака Івана Паўлава знайшоўся і партрэт Купалы 1931 года.



*Злева направа: старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры і навуцы Ігар Марзалюк; пісьменнік, галоўны дырэктар міжнароднага вяшчання радыё «Беларусь» Навум Гальпяровіч; намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч і міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў.*

Купалу шануюць таксама і сябры нашай краіны з розных куткоў свету. Таму лагічна, што 135-годдзе класіка будуць адзначаць у Літве, Латвіі, Грузіі, Украіне, Расіі, Славакіі, Польшчы, Ізраілі, ЗША, Францыі. Валерый Варанецкі, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах, лічыць імя Янкі Купалы знакавым не толькі для Беларусі:

— Творы песняра — наш нацыянальны гонар, духоўная спадчына. Калі мы ў розных краінах распавядаем пра Беларусь, многія згадваюць пра Янку Купалу. І наадварот: калі кажам пра Купалу — кажам і пра Беларусь.

А вось старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры і навуцы, доктар гістарычных навук Ігар Марзалюк разважаў пра ролю песняра ў фарміраванні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў:

— Для Беларусі Янка Купала — не проста паэт. Разам з Якубам Коласам і Максімам Багдановічам — на чале беларускага нацыянальнага іканастаса. Без гэтых людзей няма новай беларускай літаратурнай мовы, разумення быцця нашага народа, асэнсавання яго самасці. Янка Купала — адзін з тых, хто ў складаных абставінах здолеў паказаць высокасць беларускай душы, перамагчы духоўную мізэрнасць.

Мемарыяльныя дошкі песняру ўжо адкрытыя ў Вільнюсе, Рызе. Беларускай школе ў Рызе нададзена імя Купалы, а летась памятны знак Купалу быў усталяваны ў ізраільскім горадзе Ашдод, на плошчы, якая носіць імя паэта. Гэтыя знакі прысутнасці нашага класіка ў іншых краінах з'яўляюцца дзякуючы спрыянню Міністэрства замежных спраў, дыпламатычных прадстаўніцтваў Беларусі за мяжой, а таксама прадстаўніцтваў замежных краін у Беларусі. Дарэчы, Янка Купала ў 1972 годзе быў першым з беларускіх пісьменнікаў, хто «перакрочыў» мяжу і быў увасоблены ў помніку. Тады помнік песняру з'явіўся ў Нью-Ёрку. Пра гэта згадаў пісьменнік, намеснік старшыні Беларускага фонду культуры, член нацыянальнай камісіі Беларусі па справах ЮНЕСКА Анатоль Бутэвіч. Тэму помнікаў працягнуў і старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца. Але ён жадаў бы пабачыць Купалу ў адметным вобразе:

— Для беларускіх мастакоў Янка Купала заўсёды быў натхненнем. Гэта дзясяткі тысячаў вобразаў не толькі самога песняра, але і яго літаратурнай спадчыны. Я мару пра помнік Купалу-дэндзі. Вельмі важна паказваць, што паэт у свой час таксама быў узорам стылю, шляхецкіх паводзінаў, выкшталцонасці.

Думаецца, сёлета нас чакае вялікае мноства выдатных імпрэзаў, выдавецкіх праектаў, прысвечаных песняру. Але арганізатары пакуль не раскрываюць усіх картаў:

— Юбілейны год толькі пачынаецца, — гаворыць дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч, — але ўжо сёння магу адзначыць, што фестываль мастацтваў, які пройдзе ў чэрвені ў Славакіі, будзе прысвечаны нашаму паэту.

Так, старт святкаванням ужо дадзены. І можна смела сказаць: у Год Купалы крочым разам.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**16 студзеня** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Кіраўнік — паэт Міхась Пазнякоў. Пачатак у 14.30.*

**17 студзеня** — *у адукацыйна-культурны цэнтр «Лідар» (пас. Ждановічы) на творчую сустрэчу з паэтэсай Вольгай Сакаловай. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**17 студзеня** — *у літаратурную студыю «Слова» пры публічнай бібліятэцы № 3 (вул. Сяліцкага, 103). Кіраўнік — паэтэса Ганна Кашуба. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**17 студзеня** — *у клуб творчых жанчын «Спадарыня» пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2) на юбілейны творчы вечар паэтэсы Алы Чорнай. Пачатак у 17.30.*

**18 студзеня** — *у Мінскі гарадскі тэатр паэзіі пры Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. Веры Харужай, 16) на юбілейны творчы вечар паэта Яўгена Хвалея «Дзе хвалі Нёмна залатыя». Пачатак у 17.30.*

**18 студзеня** — *у студыю юных літаратараў «Малінаўскія галасы» пры дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Кіраўнік — паэтэса Іна Фралова. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**19 студзеня** — *у паэтычны клуб «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2) на творчую сустрэчу з паэтэсай і бардам Таццянай Жылінскай. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**19 студзеня** — *на чарговы тур творчага конкурсу чытальнікаў паэзіі Беларусі, што адбудзецца ў Доме літаратара (вул. Фрунзэ, 5, Мемарыяльная зала). Пачатак а 15-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**19 студзеня** — *на прэзентацыю кнігі паэтэсы Тамары Красновай-Гусачэнка «Жизнь — моя молитва» ў межах Калядных сустрэч пры ўдзеле Віцебскай абласной епархіі і Віцебскага абласнога грамадскага аб'яднання праваслаўных жанчын у Віцебскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна (вул. Леніна, 8а). Пачатак а 14-й гадзіне.*

# На мове батлейкі

## навучаць размаўляць падчас фестывалю батлеечных тэатраў «Нябёсы»


Фота Кастуся Дробава.
Лялькі з інтэрмедыі «Паненка і доктар» тэатра «Батлейка Алеся Лася».

З даўніх часоў на Беларусі існуе традыцыя: Каляды і Раство Хрыстова сустракаць са святочнай узрушанасцю ды… батлейкай. Галоўны біблейскі сюжэт — Раство Хрыстова — увасабляўся ў пастаноўцы пра лютага цара Ірада, які загадаў забіць немаўлят. Зразумела, у лялечным Батлееме-Віфлееме перамагае дабро ды вера: злосны цар трапляе ў пекла, а анёлы абвяшчаюць нараджэнне Сына Божага. Батлейка пачыналася як адзінства тэатра і хрысціянства, таму вельмі натуральна, што пляцоўкай для III Міжнароднага Каляднага фестывалю батлеечных ды лялечных тэатраў «Нябёсы» стаў Адукацыйны цэнтр Свята-Елісавецінскага манастыра.

За доўгую гісторыю існавання батлейкі яе рэпертуар узбагаціўся рознымі сюжэтамі. Акрамя рэлігійных сцэн з'явіліся побытавыя, «мірскія», дзе артысты адлюстроўвалі сучаснасць. Дызайн батлеечнай скрыні таксама ўдасканальваўся: у межах кананічнага афармлення ўвасабляліся асобныя падыходы, індывідуальнасць творцаў. Разнастайнасць батлеечных і лялечных тэатраў фестывалю сёлета ўражвае: удзел бяруць калектывы з Беларусі, Расіі, Украіны ды Польшчы. На тое, каб далучыцца да старажытнага мастацтва, у беларусаў чатыры дні: фестываль «Нябёсы» доўжыцца з 12 па 15 студзеня, у час, калі адзначаюць стары Новы год. Акрамя выступаў батлеечных тэатраў, маленькіх наведвальнікаў чакаюць майстар-класы па вырабах з паперы, саломапляценні, пескаграфіі, малюнку на вадзе ды асновах мастацтва лялечнага тэатра.

— Батлейка — з'ява шматмерная і разнастайная, — падзяліўся меркаваннем мастацкі кіраўнік і вядучы фестывалю, акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Аляксандр Ждановіч. — Яна сумяшчае глыбіню і сакральнасць народнага мастацтва з прастатой формай, што вабіць дзяцей. На мове батлейкі можна лёгка навучыць простым, але істотным рэчам.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Трыумф мабільнага кіно

Фестываль ***velcom Smartfilm*** абраў прэтэндэнтаў на перамогу ў конкурсе. На ўдзел у спаборніцтве былі дасланы 273 працы з 48 краін свету, але ў шорт-ліст фестывалю трапілі толькі 12 фільмаў.

У спісе фіналістаў і 4 беларускія стужкі, якія таксама пазмагаюцца за перамогу. Абвешчаныя прызёры фестывалю мабільнага кіно *velcom Smartfilm* будуць 19 студзеня. Сёлета конкурс стаў міжнародным, а ўдзельнікі фестывалю маглі выбіраць вольны фармат для сваіх прац.

Нягледзячы на тое, што журы адзначыла высокі ўзровень усіх фільмаў, дасланых на конкурс, усё ж давялося выбраць самых вартых. Менавіта таму ў шортліст трапілі стужкі «ўнікальныя, выкананыя тэхнічна "смачна" і з прэтэнзіяй на навізну і адкрыццё, з перакануачай канцэпцыяй».

У выніку ў фінальным спісе фільмаў можна ўбачыць работы з Францыі, Чэхіі, ЗША, Турцыі, Індыі, Вялікабрытаніі, Бразіліі і Беларусі. Сярод айчынных стужак — «Работнік года» Кірыла Нонга, «Памятаць» Кацярыны Ніканович, «137 гадзін» Дзмітрыя Сахарука і «Умзарозум» Антона Байдзёнка.

Па словах журы, беларускія працы падаліся ім сапраўды вартымі і канкурэнтаздольнымі ў міжнародным конкурсе. Пра гэта сведчыць і досвед удзелу ў міжнародных фестывалях мінулагодняга пераможцы *velcom Smartfilm* — буктрэйлера «1984». Не так даўно стужка трапіла ў паўфінал прэстыжнага *iPhone Film Festival* у ЗША.

Тым часам пераможцы сёлетняга *velcom Smartfilm* ужо выбраныя членамі журы, сярод якіх вядомыя ў Беларусі кінакрытыкі і маладыя рэжысёры, і засталося дачакацца, пакуль іх імёны стануць вядомыя шырокай публіцы, а адбудзецца гэта 19 студзеня на цырымоніі закрыцця фестывалю.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Ад класікі да «Зорных войнаў»

## пашырыцца рэпертуар сімфанічнага аркестра Вялікага тэатра Беларусі

Уснежні сімфанічны аркестр Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра Беларусі, акрамя выканання звычайнай праграмы, прадэманстраваў беларусам і замежным гасцям сталіцы высокі прафесійны ўзровень падчас III Мінскага міжнароднага Каляднага конкурсу вакалістаў, VII Мінскага міжнароднага Каляднага опернага форуму, Гала-канцэрта зорак сусветнай оперы. Гэты месяц для аркестра таксама будзе насычаны на падзеі: з 12 па 27 студзеня артысты выпраўляюцца ў тур па буйных гарадах Германіі, у праграме якога — творы пяціразнага лаўрэата прэміі «Оскар», вядомага кампазітара Джона Уільямса, што стварае музыку да кінафільмаў.

На геаграфічнай карце тура — Берлін, Штутгарт, Кёльн ды Лейпцыг. У красавіку гастролі працягнуцца, закрануўшы не толькі Германію, але і Швейцарыю. Вядомыя сваёй музычнай культурай германскія гарады запрашаюць беларускіх артыстаў выконваць знакамітыя кампазіцыі (сярод іх — музыка з фільмаў «Супермэн», «Іншапланецянін», «Парк Юрскага перыяду», «Спіс Шындлера», «Зорныя войны», «Гары Потэр», «Скрыпач на даху» і г.д.). Розная публіка, розны менталітэт, але аркестр тэатра немцы прымаюць з задавальненнем: у Вялікім тэатры Беларусі працуюць прафесіяналы сусветнага ўзроўню, здольныя сыграць любую музыку.

У тур па Германіі выпраўляецца прыкладна 70 чалавек, і столькі ж застаецца ў Мінску. Гледачы могуць не хвалявацца: запланаваны на студзень рэпертуар будзе ісці на сцэне без зменаў.

— У нас ёсць магчымасць паехаць на гастролі. Склад аркестра вельмі вялікі, і ў выніку тэатр нічога не страчвае, — кажа загадчык трупы аркестра Дзмітрый Гарбачук. — Аркестру Вялікага тэатра прапанавалі выступіць з музыкай кампазітара Джона Уільямса, і мы пагадзіліся. Музыкантам цікава працаваць з такой праграмай, бо ў ёй шмат вядомых кампазіцый, якія выконваеш не кожны дзень. Мяркую, што выступ сімфанічнага аркестра сумясціць з відэашэрагам: калі ўрывак з любімага кінафільма спалучаецца са знаёмай музыкай, забываешся на ўсё.

Сімфанічны аркестр Вялікага тэатра Беларусі выязджае на гастролі сістэматычна. Летась аркестр ездзіў у тур з вядомым галівудскім кампазітарам Гансам Цымерам, што напісаў музыку да такіх папулярных кінастужак, як «Чалавек дажджу», «Кароль Леў», «Скала», «Гладыятар», «Анёлы і дэманы», «Пёрл Харбар», «Пачатак», «Інтэрстэлар», «Піраты Карыбскага мора», «Цёмны рыцар», «Шэрлак Холмс». Беларусы бліскуча справіліся са сваёй працай і выканалі хіты разам з бэндам Ганса Цымера перад пятнаццацітысячнай аўдыторыяй.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# ЛіМ-каляндар

**915 гадоў** таму нарадзілася Ефрасіння Полацкая (свецкае імя Прадслава; 1102 — 1167), полацкая князёўна, асветніца, ігумення манастыра св. Спаса ў Полацку, беларуская святая.

**490 гадоў** таму нарадзіўся Канстанцін Астрожскі (1527 — 1608), палітычны і культурны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага.

**470 гадоў** таму нарадзіўся Мацей Станіслаў Стрыйкоўскі (1547 — каля 1590), гісторык, паэт. Пісаў на польскай і лацінскай мовах.

**440 гадоў** таму нарадзіўся Мялецій Смятрыцкі (свецкае імя Максім Герасімавіч; 1577, па іншых звестках 1578 — 1633), беларускі і ўкраінскі пісьменнік-палеміст, вучоны, грамадска-палітычны і рэлігійны дзеяч.

**420 гадоў** таму нарадзіўся Афанасій Філіповіч (1597 — 1648), беларускі пісьменнік-публіцыст, палітычны і царкоўны дзеяч.

**9 студзеня** — 120 гадоў з дня нараджэння Васіля Шашалевіча (1897 — 1941), беларускага драматурга.

**10 студзеня** — 120 гадоў з дня нараджэння Юліі Бібілы (1897 — 1974), беларускага бібліёграфа.

**10 студзеня** 75 гадоў адзначае Анатоль Вараб'ёў, беларускі дзеяч самадзейнага мастацтва, балетмайстар, заслужаны работнік культуры БССР, народны артыст БССР.

**12 студзеня** — 100 гадоў з дня нараджэння Міхася Калачынскага (1917 — 1990), беларускага паэта, перакладчыка, кінасцэнарыста, заслужанага работніка культуры БССР.

**12 студзеня** 80-годдзе адзначае Аляксандр Веліксонаў, беларускі скульптар.

**13 студзеня** 60 гадоў адзначае Элеанора Грыгарук, беларускі мастак тэатра.

**13 студзеня** — 50-годдзе Міколы Касцюкевіча, беларускага паэта.

**15 студзеня** 90 гадоў адзначае Галіна Васілеўская, беларускі празаік.

## Дайджэст

• *Forbes* апублікаваў топ-спіс кніг студзеня. Галоўным выданнем у ім пазначаецца англамоўная біяграфія Льва Троцкага *«Trotsky in New York 1917. A Radical on the Eve of Revolution»* пісьменніка Кенэта Д. Акермана. Аўтар распавядае пра невядомыя раней факты з жыцця Троцкага ў Амерыцы напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі. Наступная кніга ў спісе — «ВВП. Кароткая гісторыя, распаведзеная з піетэтам» Даяны Койл. Работа, выдадзеная Вышэйшай школай эканомікі, у цікавай форме даследуе гісторыю і развіццё гэтага значнага эканамічнага паказальніка. Таксама сайт *Forbes* раіць звярнуць увагу на папулярна-навуковую кнігу "Як не памыліцца. Сіла матэматычнага мыслення" Джордана Эленберга. На актуальныя праблемы сучаснасці адгукаецца Марыя Коннікава ў кнізе «Псіхалогія недаверы. Як не патрапіць на кручок махляроў». Аўтарка раскрывае спосабы «падмануць і абдзяліць» у эпоху залатога веку інфармацыі, распавядае, якімі метадамі і схемамі карыстаюцца махляры, пры гэтым абапіраецца на сапраўдныя прыклады, да якіх прыкладаюцца аналіз і пошук гістарычнай падасновы.

• Засакрэчаны на паўстагоддзя спіс кандыдатаў на Нобелеўскую прэмію 1966 года раскрыты. Аказалася, што Ганна Ахматава магла стаць лаўрэатам гэтай прэміі ў галіне літаратуры. Перамаглі ж у той год ізраільскі празаік Шмуэль Ёсаф Агнон «за выбітныя лірычныя і драматычныя творы, якія даследуюць лёс яўрэйскага народа», і нямецкая паэтэса Нэлі Закс «за глыбока арыгінальнае мастацтва аповеду, сугучнае яўрэйскім народным матывам». У спісе намінантаў значацца таксама рускія аўтары Уладзімір Набокаў і Канстанцін Паўстоўскі.

• Старажытныя збудаванні знайшлі на польскай частцы Белавежскай пушчы каля мяжы з Беларуссю. Гэта каменныя канструкцыі вышынёй у 20 — 30 сантыметраў. Невядомыя антрапагенныя археалагічныя аб'екты былі выяўлены ў выніку лазернага скануання паверхні пушчы. Групы такіх аб'ектаў займаюць тэрыторыю ў дзясятку кварталаў, размешчаныя збольшага на ўзвышшах. На некаторых участках ужо праведзены археалагічныя работы, у выніку якіх выяўленыя каменныя канструкцыі шырынёй каля двух метраў. Як мяркуюць польскія даследчыкі, гэтыя рукатворныя канструкцыі, хутчэй за ўсё, рэшткі межаў сельскагаспадарчых палёў. Канструкцыі ў асобных месцах знаходзяцца пад археалагічнымі аб'ектамі ранняга Сярэднявечча (V — XII стагоддзе), а значыць, маюць больш ранняе паходжанне. Навукоўцы Польшчы плануюць у недалёкай будучыні высветліць дакладную датыроўку гэтых аб'ектаў і іх функцыі, а таксама дэталёва вывучыць іх змест.

# Пад апекай Ефрасінні,

## альбо Чым адметныя фрэскі Спаса-Праабражэнскага сабора



*Фрэскавы роспіс XII ст. у інтэр'еры Спаса-Праабражэнскага храма.*

**Выключнасць Полацка заключаецца ў сапраўднасці, універсальнасці і агульначалавечай значнасці культурнай спадчыны гэтага старажытнага горада. Без яе немагчыма ўявіць сучаснае жыццё Полацка і яго перспектывы. Спадчына шмат у чым фарміруе асаблівы менталітэт палачан, сцвярджае пераемнасць гуманістычных каштоўнасцей, падкрэслівае неафіцыйны статус культурнай сталіцы Беларусі. Асабліва багатым на падзеі, якія зрабілі моцны ўплыў на развіццё матэрыяльнай і духоўнай культуры горада, стала XII стагоддзе.**

Полацк на працягу ўсяго XII ст. быў адным з галоўных цэнтраў манументальнай архітэктуры і жывапісу Старажытнай Русі. **Менавіта тут атрымаў развіццё асаблівы архітэктурны тып храма — вежападобны з трохлопасцевым завяршэннем фасадаў, што стварала вертыкальны акцэнт у аб'ёмнай кампазіцыі будынка.** Самым яркім узорам гэтай унікальнай школы архітэктуры стаў Спаса-Праабражэнскі храм XII стагоддзя. Традыцыі полацкага дойлідства моцна паўплывалі на каменнае будаўніцтва ў Смаленску, Ноўгарадзе, Гродне, Чарнігаве, Віцебску. Пры жыцці святой Ефрасінні Полацкай Спаса-Праабражэнскі храм, пабудаваны па яе замове полацкім дойлідам Іаанам, быў распісаны фрэскамі, якія захаваліся да нашых дзён у поўным аб'ёме. **Ансамбль фрэсак Спаскай царквы ўяўляе сабой абсалютна ўнікальную з'яву ў сусветнай культурнай спадчыне.** Больш за 20 гадоў вядуцца працы па раскрыцці манументальнага жывапісу ў храме. Паралельна з раскрыццём фрэсак XII стагоддзя праводзіцца адслаенне больш позняга жывапісу XIX стагоддзя, які ўяўляе гістарычную і мастацкую каштоўнасць і з'яўляецца часткай адзінага комплексу манументальнага жывапісу храма. Адслоены жывапіс пераносіцца на новую пастаянную аснову і можа экспанавацца ў музеі і на выстаўках.

Музеефікацыя комплексу насценнага жывапісу XII — XIX стагоддзяў Спаса-Праабражэнскага храма ў Полацку стала ўнікальным доўгачасовым праектам, у якім вось ужо каля 10 гадоў удзельнічаюць расійскія і беларускія навукоўцы і рэстаўратары. Група расійскіх рэстаўратараў (пад кіраўніцтвам вядомага мастацтвазнаўцы і дасведчанага рэстаўратара вышэйшай катэгорыі Уладзіміра Дзмітрыевіча Сараб'янава) у 2006 годзе сумесна з беларускімі рэстаўратарамі пачала работы па раскрыцці фрэскавага роспісу Спаса-Праабражэнскай царквы, помніка архітэктуры сярэдзіны XII стагоддзя.

На першым этапе нашага супрацоўніцтва ў працы ўзялі ўдзел рэстаўратары Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, што вельмі важна для далейшага працэсу музеефікацыі, бо яны атрымалі магчымасць не толькі павысіць сваю кваліфікацыю, але і магчымасць быць датычнымі да працэсу рэстаўрацыі ўнікальнага помніка.

**Цяпер раскрыты ўвесь аб'ём храма, распісаны фрэскамі. Многія кампазіцыі з'яўляюцца сенсацыйнымі для мастацтвазнаўства.** Напрыклад, цудоўна захаваліся выявы першых рускіх святых Барыса і Глеба. Да цяперашняга часу самыя раннія выявы святых братоў датаваліся XIII стагоддзем. Выява Барыса і Глеба ў полацкім храме была ўключана прападобнай Ефрасінняй, як і выява Вячаслава Чэшскага, у яе патранальную праграму роспісу храма. Родныя браты бацькі Ефрасінні і яе родны брат, на момант роспісу храма ўжо памерлыя, насілі імёны святых, намаляваных у цэнтральным нефе храма. Насупраць сцяны з выявамі Барыса і Глеба знаходзіцца рэдкі малюнак — святога пакутніка Рамана і князя Вячаслава (Вацлава) Чэшскага, які да гэтага часу глыбока шануецца ў Чэхіі. Гэта адзіная выява чэшскага святога ў праваслаўных храмах на тэрыторыі Расіі, Украіны і Беларусі, якая датуецца XII стагоддзем. У тым, што святы з'явіўся насупраць Барыса і Глеба, няма нічога дзіўнага: чэшскі князь, таксама як і рускія святыя князі, быў забіты родным братам. Патранальныя выявы асноўнага аб'ёму храма паказваюць, што тэма малення за сваіх родных з'яўлялася адной з вызначальных у функцыі Спаскай царквы.

Адначасова з даследаваннем помніка і раскрыццём фрэскавага роспісу XII — XIII стст. вяліся работы па музеефікацыі жывапісу XVIII — XIX стст., які адслойваюць расійскія і беларускія рэстаўратары па ўнікальнай тэхналогіі, укаранёнай у рэстаўрацыйную практыку ў 1978 г. С. В. Філатавым. **Для адслаення кампазіцый вялікага фармату рэстаўратарамі быў распрацаваны новы спосаб, які дазваляе здымаць алейны жывапіс участкамі да некалькіх квадратных метраў.** Гэтую методыку асвоілі і музейныя рэстаўратары.

Адслаенне і захаванне жывапісу XVIII — XIX стст. на новай аснове да гэтага часу недастаткова распаўсюджана ў рэстаўрацыі насценнага жывапісу пры тым, што перавагі яго відавочныя. Гэты метад дазваляе захаваць абодва пласты жывапісу — першапачатковы і слой панаўлення, якія таксама з'яўляецца аб'ектам мастацкай спадчыны. Падобны метад захавання больш позняга ў адносінах да першапачатковага пласту жывапісу цалкам заслугоўвае больш частага ўжывання ў рэстаўрацыйнай практыцы, паколькі запіс бывае выкананы вельмі таленавітымі жывапісцамі і ўяўляе сабой асобны комплекс роспісаў з мастацкай каштоўнасцю. Часта гэтая каштоўнасць мае гістарычны характар і бывае звязана з рэпрэзентацыяй стыляў і манер, характэрных для пэўных перыядаў развіцця жывапісу. Амаль усе знятыя фрагменты XVIII — XIX стст. па кампазіцыі адпавядаюць фрэскам XII ст.



*Актавая пячатка святой Ефрасінні Полацкай (XII ст.).*



*Выява святых Барыса і Глеба. Фрэскавы роспіс XII ст.*

Для паўнавартаснай музеефікацыі помніка неабходна стварэнне вычарпальнай базы дадзеных па комплексе манументальнага жывапісу, па гістарычных, архітэктурных і археалагічных пошуках, а таксама па выніках рэстаўрацыі (у нашым выпадку жывапісу) у розныя перыяды часу (1920 — 1930-я гг., 1970-я гг., 1993 — 2005 гг., 2007 — 2010 гг.) і архітэктурных абмераў. Па заканчэнні раскрыцця фрэсак і да пачатку архітэктурных рэстаўрацыйных работ неабходна валодаць поўнай фотафіксацыяй усіх архітэктурных элементаў, шурфаў і роспісаў Спаскай царквы, уключаючы фрэскі XII ст., а таксама алейныя панаўленні XVIII — XIX стст., якія па магчымасці павінны быць зафіксаваны на розных этапах іх адслаення і пераносу на новую пастаянную аснову. Практычны збор матэрыялу і распрацоўка працэсу музеефікацыі ажыццяўлялася сумеснай расійска-беларускай групай даследчыкаў і супрацоўнікамі Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. У выніку гэтай сумеснай працы вызначылася кола навуковых інтарэсаў, якія сталі асновай для выканання навукова-даследчых работ у рамках Расійскага і Беларускага фондаў фундаментальных даследаванняў. Гэта стала падмуркам працы над праектам у 2011 — 2012 гадах. Вынікам дадзенага этапу было ўвядзенне ў навуковае абарачэнне найбольш поўнай інфармацыі пра комплекс насценнага жывапісу XII — XIX стст. Спаса-Праабражэнскага храма шляхам выдання навуковых публікацый, стварэння канцэпцыі музеефікацыі комплексу і віртуальнай яго прэзентацыі ў сетцы інтэрнэт (*http://polotsk.museum.by/files/freski/Page17.html*).

Трэці этап рэалізацыі праекта быў завершаны ў верасні 2014 года. Укараненне сучасных методык адслаення жывапісу XIX ст. у практычную музейную дзейнасць, захаванне і музеефікацыя гісторыка-культурнай спадчыны на гэтым этапе сталі магчымымі праз стварэнне музейнай экспазіцыі ў Мастацкай галерэі, філіяле Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, дзе тэматычна прадстаўлены: унікальная полацкая школа архітэктуры, манументальны жывапіс Спаскай царквы XII ст. і адслоеныя і перанесены на новую пастаянную аснову фрагменты сценапісу XVIII — XIX стст. (праграма і тэхналогіі не маюць аналагаў у практыцы краін СНД, а ў сусветнай практыцы такія доследы адзінкавыя і шмат у чым не дасягаюць таго навукова-практычнага ўзроўню, які прадугледжаны дадзеным праектам).

Знятыя (адслоеныя) фрагменты роспісаў XVIII — XIX стст. са Спаскай царквы, археалагічныя знаходкі XII ст., копіі фрэсак XII ст. і іх графічныя прамалёўкі, макеты помнікаў архітэктуры, прадметы літургічнага ўжытку і асабістай набожнасці нароўні з лічбавымі праекцыямі і фільмамі, дзе зафіксаваныя працэсы адслаення, сталі экспанатамі стацыянарнай выстаўкі.

**Новая экспазіцыя пабудаваная на прынцыпах спалучэння тэматычнай экспазіцыі і адкрытага захоўвання фрагментаў адслоенага жывапісу XVIII — XIX стст., якія перададзены на пастаяннае захоўванне ў музейны збор.** Спецыфіка дадзенай экспазіцыі як сістэмы заключаецца ў тым, што ўсе яе элементы, у тым ліку інфармацыйнае забеспячэнне, складаюць адзінае цэлае і не парушаюць гарманічнасці і сутнаснай асновы.

Дзякуючы музеефікацыі як асноватворнаму прынцыпу захавання спадчыны, створаная экспазіцыя дае аб'ектыўнае прадстаўленне або прэзентуе адначасова тры інтэр'еры ўнікальнага Спаскага храма: фрэскавую праграму XII ст., алейныя роспісы 1837 і 1885 гадоў. Гэта дазваляе наведвальнікам музея ацаніць філасофскі падыход, узровень успрымання і развіцця мастацтва ў рэгіёне ў розныя эпохі, што вельмі каштоўна для пабудовы агульнай карціны культурнай прасторы старажытнага горада.

У 2015 г. пачаўся новы этап праекта, сутнасць якога ў неабходнасці таніроўкі адслоеных фрагментаў. Навукова-метадычнай радай прынята рашэнне таніраваць адслоеныя фрагменты (ашчадная таніроўка акварэллю). **Рэстаўратары будуць рабіць таніроўкі ўжо ў экспазіцыі, што надасць ёй яшчэ і інтэрактыўнасці.**

Падчас падрыхтоўкі праекта рэстаўрацыі храма ў маі 2015 г. пачаліся архітэктурна-археалагічныя даследаванні падмурка помніка, што дало шмат новых адкрыццяў. Гаворка ідзе пра галерэі, якія раней не былі вядомыя, і ўнікальныя знаходкі (напрыклад, вісляя пячатка св. Ефрасінні Полацкай). У 2016 г. даследаванні сабора працягваліся. Гэта значыць, што экспазіцыю, прысвечаную комплексу сценапісу Спаса-Праабражэнскага храма, чакаюць змены.

**Тамара ДЖУМАНТАЕВА,**
**дырэктар Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка**

# НІХТО, АКРОМ ЦЯБЕ

## Нам засталася спадчына... А што з ёю рабіць? Як захаваць? І чый гэта клопат?

Сёння захаванне памяці пра пісьменнікаў — дакументаў і здымкаў, рукапісаў і асабістых рэчаў, а з тым — арганізацыя выставак і прэзентацый, нават адкрыццё невялікіх музеяў — усё гэта клопат нашчадкаў. У літаральным сэнсе. Дзеці пісьменнікаў, унукі перавыдаюць кнігі, даглядаюць мемарыяльныя пакоі, падтрымліваюць на слыху імёны тых, хто ў свой час рабіў нашую літаратуру.

У ліку такіх захавальнікаў скарбаў — Галіна Іванаўна Скрыган, дачка Яна Скрыгана. «Усе яго здымкі і рукапісы ляжалі некранутыя да смерці мамы. Пасля я забрала ўсе папкі да сябе. Першае, што зрабіла, — сістэматызавала: асобна фота, асобна нататкі, занатоўкі, рукапісы... І так да 2003 года. А пасля падумала: у 2005-м бацькава стагоддзе. Трэба нешта рабіць».

З гэтага «нешта рабіць» у выніку атрымалася вельмі шырокая і плённая праца, пра якую мы пагутарылі са спадарыняй Галінай.

**— Скажыце, вы ўсё рабілі самі?**

— Але. Хіба Янка Брыль дапамог. Ён быў нашым суседам у доме на Карла Маркса, 36. Я патэлефанавала яму, каб параіцца, што ж менавіта зрабіць да стагоддзя Скрыгана. Ён сказаў: «Галя, збірай кніжку ўспамінаў, да 2005-га паспееш». Ён жа параіў звярнуцца да Цвіркі ў «Кнігазбор». Пасля ўжо аказалася, што Цвірка настаўнічаў у Труханавічах і з бацькавай сястрой быў знаёмы.

Работа з успамінамі — гэта проста тысяча і адна ноч... Брыль па пісьменніцкім зборнічку, ад А да Я, даў кантакты людзей, якія маглі б нешта сказаць пра бацьку. Цяпер смешна згадваць, але тады было не да смеху: многім даводзілася званіць па пяць-дзесяць разоў, нагадваць пра абяцанні, па паўгадзіны тлумачыць, чаго ж я хачу. Два гады я збірала гэтыя ўспаміны. А кнігу зрабілі літаральна за два месяцы. Апошні тэкст прынеслі ўжо ў тыпаграфію, дзе ішоў набор кнігі!.. Многія пыталіся: а хто здаў? Нібы школьнае сачыненне. Дарэчы, сам Брыль напісаў тэкст за тыдзень. Кожны месяц тэлефанаваў і падбухторваў да дзеяння. Калі б не ён… Алена Васілевіч так і сказала адразу: кіньце гэтую задуму, ніхто вам нічога не напіша. Шамякін на той час быў зусім кепскі, адразу адаслаў мяне да сваіх дзённікаў «Роздум на апошнім перагоне», дзе напісаў пра бацьку, і напісаў даволі многа. Цікава, што з часам пачатковы спіс аўтараў пашыраўся. Лідзія Савік дала яшчэ і турэмныя здымкі, якіх у мяне не было. Яна ж дала матэрыял Зінаіды Клыга, старшыні беларуска-эстонскага згуртавання: калі ў Эстоніі ў 1998 годзе ставілі помнік Скрыгану, яна напісала артыкул «Калі помнікі ставяць, значыцца, яны некаму патрэбныя». Так стваралася кніга «Ян Скрыган ва ўспамінах».

Яна ўжо выйшла, а людзі ўсё яшчэ прапаноўвалі тэксты. Я, вядома, іх збірала. І ў 2010 годзе зрабіла дапоўненае перавыданне кнігі, якое прэзентавалі ў музеі Заіра Азгура.

**— Кнігі выдаваліся за кошт выдавецтва ці з дзяржаўных субсідый?..**

— За мой. Але я ні на каго не ў крыўдзе. Памятаю, прыйшла ў «Мастацкую літаратуру», дзе мусіла выйсці бацькава кніга «Месяцовая ноч» — яшчэ 12 гадоў таму. Звярнулася да іх — можа, запусціць да юбілейнай даты?.. Дзе там! Папрасіла, каб хаця аддалі рукапіс. І мы выдалі аднатомнік у «Кнігазборы». Цяпер гэта ўсё смешна. Калі ўжо бярэшся за справу, трэба рабіць да канца. З часам і людзі вакол цябе актывізуюцца.

У 2005 годзе я пачала разбіраць дзённік і зразумела: іх таксама трэба выдаць. Было дзесяць агульных сшыткаў, перавязаных крыж-накрыж. А там такі дробны почырк, літары неразборлівыя, у скрыганаўскім стылі… Калі я ўрэшце перадрукавала на машынцы гэтыя дзённікі (сем гадоў на тое пайшло, адну старонку, бывала, два-тры дні, а то і тыдзень набірала), калі паставіла апошнюю кропку… З тых часоў дзённік больш не раскрывала. Збіраюся аддаць у архіў. Сама я гэты почырк ужо проста не магу бачыць.

**— Ці не думалі падчас працы звярнуцца па дапамогу да музейных супрацоўнікаў ці навукоўцаў?..**

— Ды хто гэта стане рабіць, акром мяне!.. Дзённікі надрукаваныя дакладна ў тым выглядзе, які быў у рукапісах. Шамякіна Скрыган называў выключна «Шамяка», так я і пакінула. Але не ўсё апублікавана, вядома. Там маюцца характарыстыкі маральных якасцяў асобных людзей, чые дзеці яшчэ жывыя. У маіх унукаў ёсць поўны аб'ём дзённікаў. Прыйдзе час — надрукуюць.

У выніку, пасля сямі гадоў працы, у мяне на руках быў адзіны экзэмпляр аддрукаваных дзённікаў Скрыгана. Аддаць у капіравальны цэнтр? Немагчыма: лістоў вельмі многа, капіраваць трэба ці не тыдзень, а без нагляду я іх пакінуць не магла. Я вырашыла ехаць да дачкі ў Варшаву, перадаць капіс яе мужу — ён мог зрабіць копіі. Узяла гэты адзіны экзэмпляр з сабой у салон самалёта. Сяджу з бацькавымі дзённікамі ў сумачцы і думаю: толькі б даляцець, давезці гэты экзэмпляр, а там ужо нараблю копій, і хай будзе што будзе!.. За сябе ну зусім не хвалявалася — страшна было, што машынапіс прападзе.

Ужо там, у Варшаве, я занялася выбаркай для кнігі. Чытаю тэкст, нажніцамі выразаю, што не трэба, і на белыя лісты наклейваю тое, што для друку. Дачка з зяцем з'ехалі ў адпачынак. Два тыдні я рэжу — клею, клею — рэжу…

А потым захварэла, моцны бранхіт, відаць, занядужала ад бяссонніцы з гэтай работай. Кашаль быў жудасны. Урач прыйшла, пабачыла раскіданыя па ўсёй падлозе, канапе, крэслах шматкі паперы, выразкі і глядзіць на мяне як на ненармальную… Аказалася, гіпертанічны крыз. А дасюль у мяне ўвогуле не было праблем з ціскам. І ўсё ж дарабіла працу, прыляцела ў Мінск і здала ў выдавецтва гатовыя да набору лісты.

Калі працавала над дзённікам, не раз чытала бацькавыя развагі: бяруся за тэкст, а ён не даецца. «Гаўрука псую тым, што напіхваю непатрэбшчынай». «І кінуты безнадзейна Алесь Гародня на стале, і няма сілы садзіцца да стала, і наўрад ці скончу». Такія вось думкі. І тады я падумала: трэба ўсе гэтыя партрэты сабраць і выдаць кніжку. Яна выйшла пад назвай «Добра, што я іх ведаў» — так хацеў сам бацька, так напісаў у дзённіках. Адзінае што вагалася: даць па храналогіі, значнасці ці гадах нараджэння герояў? Цвірка параіў даць па храналогіі напісання партрэтаў. Так можна прасачыць развіццё думкі, творчыя метамарфозы.



Сумесны выступ Галіны Скрыган і Сяргея Доўгушава на святкаванні 110-годдзя Яна Скрыгана. Музей Багдановіча, 2015 год.

**— Чаму музей Скрыгана вырашылі зрабіць у Каменскай школе, а не ў Труханавічах, на яго радзіме?**

— Мой сын Юра гадоў пяць распытваў, як там стары дом у Труханавічах. Відаць, нейкая задума ўжо была. А пазней сказаў, што хоча рэстаўраваць дом. Думалі ў тым доме рабіць музей. А потым зразумелі, што няварта: у школе ён будзе ў надзейных руках. Школа ахоўваецца, музей пад наглядам. Мяне не стане — музей застанецца, не прападзе. Пайшла ў мясцовы выканкам з прапановай, і ўжо ў музеі Азгура на прэзентацыі кнігі ўспамінаў дырэктар Каменскай школы паведаміла, што будуць у іх рабіць музей. Пачыналі з нуля: нешта вазіла сама, нешта дапамагаў перавезці сын, ён жа зрабіў зашклёны стэнд. Шмат чаго перадалі: узнагароды, здымкі, дакументы, крэсла, шахматы, лямпа настольная, кіёчкі, маленькія цісочкі, з дапамогай якіх бацька рабіў тыя кійкі. Ён пастаянна нешта рабіў рукамі: то зэдлік які, то рамачкі...



Фота прадастаўлена Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры.

Юрась Скрыган на падмурку дзедаўскай сядзібы ў Труханавічах, 2016 год.

**— Адкрыццё музея самі арганізоўвалі?**

— Старшыня мясцовага выканкама і школа разам дапамаглі зрабіць свята. А пасля ўжо, на вечарыне ў музеі Броўкі, пазнаёмілася з Лідзіяй Паўлаўнай Шагойка. Яна прапанавала правесці вечарыну да 110-годдзя Скрыгана ў музеі Багдановіча. Свята ў каменскім музеі — другое наша сумеснае мерапрыемства. Вось дзе чалавек на сваім месцы!.. Цудоўна валодае матэр'ялам, выдатны вядоўца. Дасць бог, будзем і надалей супрацоўнічаць. Можа, наступнае мерапрыемства адбудзецца ўжо ў самім Літаратурным музеі. На ім можна было б і спыніцца.



Фота Кастуся Дробава.

Кнігі, выдадзеныя клопатам дачкі пісьменніка.

**— А чым цяпер займаецеся?**

— Неяк я стала перабіраць фотаархіў, а там — процьма здымкаў. У капэртах, па тэмах, але збольшага не сартыраваныя. Нікому іх не аддасі — хто гэтым стане займацца? А будуць ляжаць — прападуць. Я распрацавала класіфікацыю, напрыклад, «Гістарычныя групавыя фота», пачынаючы ад 1925 года. Там і з Броўкам ёсць, і з Паўлюком Шукайлам... Потым знайшла стос партрэтаў тых людзей, з якімі бацька сябраваў ці каго паважаў: Міхась Зарэцкі, Лукаш Калюга, Уладзіслаў Галубок, якога ведаў яшчэ са Слуцка, Заір Азгур, з якім сябраваў. Словам, буду выдаваць «Фоталетапіс хатняга архіва Яна Скрыгана». Ёсць здымак «Маладняка» 1925 года — там 70 чалавек! Пад кожным здымкам будзе размешчаны разгорнуты каментарый. Я знайшла лісток, з якім вечна хадзіў бацька (мне тады было гадоў 16): усё, мучаўся, маці распытваў, згадваў людзей, якія на тым фота. Памятаю, прыйдзе да маці: «Ганна, ты ведаеш, я 17 чалавек згадаў…» Ён не ўсіх здолеў успомніць. Таму будуць прочыркі.

Да 2020 года хачу выдаць альбом, то бок, засталося два гады на падрыхтоўку. Электроннымі копіямі здымкаў, якія я раблю, змогуць пасля карыстацца ўсе ахвотныя, не толькі спецыялісты. Шмат рэдкіх здымкаў, на якіх ёсць людзі, лічы, невядомыя. У каментарыях я падпісваю ўсіх, даю даты жыцця і кароткія біяграфіі.

Цікава, што гэтыя здымкі паказваюць, які дзейны чалавек быў бацька. Колькі людзей ведаў, паўсюль прымаў удзел. А колькі было падарожжаў у 1960-я гады!.. Назвы славутасцяў, ля якіх здымаліся пісьменнікі, я таксама даю, з апісаннямі. Атрымліваецца такі займальны даведнік па людзях і мясцінах.

**— З таго часу, як выйшла кніга «Ян Скрыган ва ўспамінах», да вас сталі часцей звяртацца журналісты? Больш увагі з боку «літаратурных людзей»?**

— Раней ніхто не звяртаўся, усё пачалося са 100-годдзя. Цяпер вось у «Полымя» пісала, «Маладосць», «ЛіМ», у часопіс «Наша вера» двойчы. Паціху-памалу, як кажуць.

Я лічу, трэба самому варушыцца, не чакаць, што нехта на спадочку прынясе гатовае. Гэта наша справа. Хто там мусіць думаць, што ў Скрыгана юбілей?.. Я не хачу ад некага залежаць. І потым, ведаеш, мне не хочацца, так бы мовіць, атрымаць па носе, звярнуцца з просьбай — і пайсці ні з чым, выслухаўшы процьму адгаворак. Добра, Юрка вельмі моцна дапамог. Збудаваў у Труханавічах летні домік, каб жыць там, калі будзе адбудоўваць сядзібу. Але ніяк не знойдзе майстроў, каб паставіць зруб на камяні. Усё гэта, вядома, вельмі дорага. Дый работнікі цяпер інакш ставяцца да справы, тысячы недаробак застаюцца, калі над імі не стаяць цэлы дзень. Ясік, унук, тэлефануе, цікавіцца маёй работай, дапамагае.

**— Значыць, клопат пра спадчыну Скрыгана не толькі на вас, але на ўсёй сям'і.**

— Так-так, менавіта.

**— А наконт, як вы кажаце, «дзяўчат», пісьменніцкіх дачок з Карла Маркса, 36: вы падтрымліваеце сувязь між сабой? Дапамагаеце ў справе захавання бацькоўскай памяці?..**

— Сябруем. Наш касцяк — Таня Грахоўская, Таня Зарыцкая, Наташа Брыль, Валя Навуменка, Люда Карпава і я. Люда дапамагала скласці прамову для юбілейнага вечара. Таня Зарыцкая перабірае зараз бацькавы архівы і шмат матэрыялаў, што датычаць Скрыгана, перадае мне... Дамы руйнуюцца, шыльды і помнікі — таксама, усё згіне, а кнігі не гараць. Лепш я буду кнігі друкаваць.

**Наста ГРЫШЧУК**

# КАЛЕКЦЫЯНЕР СЮЖЭТАЎ

**Часам так бывае, што пісьменнік усё жыццё шукае сваю тэму ці, прынамсі, сюжэт. Але ёсць шчаслівыя творцы, якіх сюжэты знаходзяць самі. Бадай, адзін з такіх — рэжысёр, сцэнарыст, паэт-песеннік, пісьменнік Уладзімір Арлоў. Усім вядома плённая праца Уладзіміра Аляксандравіча на беларускай кінематаграфічнай ніве (гэта не адзін дзясятак мастацкіх і дакументальных фільмаў, і той самы знакаміты серыял «Пракляты ўтульны дом»). А вось яго здабыткі ў галіне прыгожага пісьменства абмяркоўваюцца ў друку часцей «з нагоды» і «ў сувязі», але не як асобная тэма. А тэма сапраўды заслугоўвае абмеркавання.**

Уладзімір Арлоў — не толькі аўтар кніг пра мастацтва кіно «Магія белага экрана» і «Закадравыя гісторыі фільма “Уся каралеўская раць” вачыма аднаго са стваральнікаў», навукова-папулярных нарысаў з серыі «100 выдатных дзеячаў», у прыватнасці, пра У. Караткевіча, С. Грахоўскага, Я. Глебава, У. Мулявіна, аднак і шэрагу твораў мастацкай прозы на рускай мове. Нядаўна на старонках «ЛіМа» была змешчаная рэцэнзія на кнігу «Ён смяяўся апошнім» пра Кандрата Крапіву з адметным жанравым азначэннем «фантазія на тэму дакументаў». Сёння гаворка пойдзе пра выдадзеную ў 2013 годзе рускамоўную трылогію «Ускользающие сюжеты», якая складаецца з аповесці «Смолино — в год, когда были геологи» і двух авантурна-дэтэктыўных раманаў «Пересечения в пространстве и во времени» і «Ускользающие сюжеты».

У адным з галоўных герояў — Ладо Кавалёве — з лёгкасцю пазнаецца аўтар, хаця вобраз і нельга назваць цалкам аўтабіяграфічным. Жанр твора вызначаны як *менипея*, дастаткова рэдкі ў сучаснай літаратуры, і менавіта характэрным для гэтага жанру сур'ёзна-смехавым асэнсаваннем рэчаіснасці вызначаецца кожны радок трылогіі. Аўтарская прысутнасць у трылогіі нязменная. Чытач, хаця б крыху абазнаны ў біяграфіі У. Арлова, адчувае яе не толькі, калі сустракаецца з Ладо Аляксандравічам Кавалёвым, але і на іншым узроўні: адступленнях, разважаннях, маналогах… Можна ўвогуле сказаць, што на многіх старонках, асабліва калі мецць на ўвазе раман "Перасячэнні ў прасторы і часе", маем справу са своесаблівай формай самарэфлексіі аўтара, такім чынам, у мастацкую канву ўплецены не толькі аўтабіяграфія, але і працэс зараджэння сюжэта, пункт адліку мастацкага твора: «*Выказванні, назіранні, сюжэтныя сітуацыі Ладо запамінаў, пасля запісваў. Бывала, прачнуўшыся ўначы, драпаў алоўкам на ўкладках-кардонках ад панчох — балазе, сяброўкі ведалі пра такую яго патрэбу. Збіраў, толкам не ведаючы для чаго. Але так напачатку, а пасля нешта з назапашанага вылучалася, выбудоўвалася, уваходзіла невытлумачальна пераўвасобленым у яго новы твор*».

Можна зіранізаваць, што гэты раман — не толькі самарэфлексія аўтара, але і самарэфлексія яго творчага метаду. Цалкам магчыма, што для чалавека, чыёй непасрэднай прафесіяй ёсць кіно, а не літаратура, але які пастаянна ў мітуслівым атачэнні акцёраў, мастакоў, пісьменнікаў, кніг і сюжэтаў, менавіта літаратурная творчасць стала своеасаблівай пляцоўкай асэнсавання самога сябе як чалавека-ў-творчасці.







Аднак вернемся да сюжэтаў. Іх у трылогіі сапраўды багата. Настолькі, што калі б за распрацоўку кожнага ўзяцца ў асобным мастацкім творы, то магла б атрымацца сотня кніг, а то і болей. Менавіта таму У. Арлову даводзіцца «хітраваць» — ствараць сітуацыі, у якіх можна пэўную частку назапашаных сюжэтаў хаця б коратка пераказаць (сцэна, калі ў санаторыі гасне святло і пастаяльцы збіраюцца ў адным пакоі, каб распавесці самае патаемнае са свайго мінулага (*«Ананімна, у цямрэчы! Як на споведзі!»*); шматлікія рэтраспекцыі, успаміны або гісторыі, пачутыя ад другарадных герояў, і г.д.).

Вельмі важным падаецца і тое, што ў літаратурным куфры У. Арлова захоўваюцца сюжэты беларускія, узятыя з той рэчаіснасці, у якой мы штодня. Так, на старонках трылогіі сапраўды адбываюцца неверагодныя перасячэнні ў прасторы і часе: беларускія землі ў часы Рэчы Паспалітай, вайны з Напалеонам 1812 года, Другой сусветнай вайны, першых паваенных савецкіх гадоў, пачатку 1990-х… Безумоўна, часта згадваецца неабыякавая самому аўтару Грузія і грузіны (ён нарадзіўся побач, у Баку). Аднак самы вялікі «сантымент» да правінцыйнага Смоліна, прататыпам якога стала сапраўднае беларускае мястэчка Сапоцкін. Нездарма У. Арлоў вызначыў жанр твора «Смоліна — у год, калі былі геолагі» як «аповесць-замілаванне». Нягледзячы на пастаянна адчувальную прысутнасць аўтара ў творы, мы не знойдзем непасрэднай эмацыйнай ацэнкі ўчынкаў герояў, нават калі яны сапраўды жудасныя, жорсткія, подлыя… Ні асуджэння, ні пагарды, ні грэблівасці ў вывераных да апошняй дробязі мастацкіх апісаннях: кожная гісторыя заслугоўвае быць пачутай і кожны чалавек заслугоўвае спробы разумення. Аўтар «садзіць» за адзін стол гуляць у карты і кульнуць чарку былога старшыню пасялковага савета, былога немца-эсэсаўца, які браў удзел у знішчэнні каманды мясцовых паліцаяў, і аднаго з тых самых паліцаяў, якому ўдалося выжыць. Усе яны — старыя нямоглыя людзі, што дажываюць свае апошнія гады: кожны са сваім болем у душы і трагедыяй за плячыма, якія, аднак, у маладосці маглі быць і былі адно аднаму толькі ворагамі. Гэта, бадай, адна з самых па-мастацку глыбокіх сцэн у трылогіі. І ўвогуле варта заўважыць, што самыя псіхалагічна моцныя, нягледзячы на ўсю разнастайнасць сюжэтнай палітры, менавіта тыя часткі твора, дзе апісваюцца смолінцы, іх лёсы, іх прыгоды і няшчасці. Тыя смолінцы — аднachасова ўнікальныя (бо кожны з іх меў канкрэтнага прататыпа ў рэальным Сапоцкіне) і ўніверсальныя (бо ў гэтых апісаннях увасобіўся «космас» заходнебеларускага мястэчка). Зусім па-іншаму выглядае мястэчка праз дваццаць гадоў — у трэцяй частцы ўжо няма таго настальгічна-каларытнага, заселенага яркімі персанажамі, Смоліна, а толькі звычайнае правінцыйнае мястэчка, у якім зачыняюцца школы і дзіцячыя садкі, моладзь з'язджае і не вяртаецца, а навакольле забудоўваецца безгустоўнымі катэджамі-лецішчамі. «*Ніхто нікім тут не стаў. З нас*»,— гаворыць адна з галоўных гераінь, прыгажуня піянерважатая, а цяпер ужо настаўніца-пенсіянерка Люцына. І ў гэтым прызнанні — скрушлівае расчараванне, туга па няспраўджаных марах маладосці і будзённая праўда пражытага жыцця, якая так кантрастуе са скразной сюжэтнай лініяй — пошукамі скарбаў, нарабаваных у Маскве, але так і не давезеных да Францыі Напалеонам, надзейна перахаваных, але так і не дастаўленых у Германію фашыстамі...

Уладзімір Арлоў верыць, што беларуская гісторыя дастаткова багатая на авантурныя, дэтэктыўныя, прыгодніцкія матэрыялы. І актыўна дэманструе гэта ў сваіх творах: «*Тая падзея ў замку Грыкольдзь асвятлялася ва ўсіх летапісах, хроніках, мемуарах, бо за цэлае стагоддзе ў краі не здаралася нічога, больш запомненага сучаснікамі, — не лічачы, вядома, двух паўстанняў, двух эпідэмій, бясконцых міжусобіц <...> і трох… нават чатырох войнаў, што прывялі да карэнных зменаў у жыцці людзей, аж да прымусовай змены нацыянальнасці і веравызнання*».

Цікавая, неверагодна заблытаная гісторыя палаца Грыкольдзь, якім некалькі пакаленняў валодаў магутны шляхецкі род Войнічаў, будзе цікавая чытачам розных узроставых катэгорый і зацікаўленняў. Замешаны на рэальных падзеях з удзелам рэальных гістарычных асоб прыгодніцкі дэтэктыў вырашае адну з самых актуальных праблем у беларускай культурнай прасторы — зацікавіць нацыянальнай гісторыяй шараговага чытача. Уладзімір Арлоў смелы і нават катэгарычны ў апісанні некаторых падзей. Ці было такое напраўду, ці не — можна паспрабаваць высветліць з дапамогай энцыклапедый і інтэрнэту, аднак калі аўтар безапеляцыйна сцвярджае, што апісаная падзея «*ўвойдзе ў нацыянальную гісторыю*», чытач яму верыць, адчуваючы подых гісторыі недзе побач. Раман напісаны стылізаванай пад адпаведны перыяд мовай — і на ўзроўні лексікі, і на ўзроўні сінтаксісу аўтар спрабуе як мага больш дакладна «патрапіць» у лад мыслення тагачаснага чалавека, не толькі ўспрымаць падзеі, але і глядзець на рэчы вачыма несучаснага чалавека. Такое сабе «прывітанне» ад Караткевіча. (Зрэшты, абазнаны чытач знойдзе ў трылогіі яшчэ «прывітанні» і ад Дастаеўскага і нават Лермантава.)

У прадмове да апошняй часткі трылогіі аўтар просіць у чытача цярпення. Сапраўды, разблытаць маток пераплеценых сюжэтных, часавых і прасторавых нітак часам не так проста. З Рэчы Паспалітай чытач трапляе ў пачатак 2000-х гадоў і не заўсёды паспявае асэнсаваць сувязь паміж часавымі пластамі і раскіданымі па іх героямі. Аўтар нібы наўмысна не дапамагае, не падказвае, не тлумачыць — тым самым захоўвае інтрыгу да канца.

Ёсць і яшчэ некалькі яркіх стылёвых адметнасцей, характэрных для прозы Уладзіміра Арлова. Перапляценне — у адным эпізодзе, часам нават у адным сказе — тонкага гумару і асэнсавання вялікай людской бяды. Ці гэта будуць проста заўвагі кшталту «*гэта было даўно, дзве жонкі таму*» або «*Жарсці, жарсці ж якія!... Шэкспір! Курэйчык!*». Ці смешная і ў той жа час скрушна-трагічная сцэна ўзнагароджання смолінцаў Міхала і Міхаліны медалямі «За отличие в охране государственных границ СССР», калі старыя аніяк не могуць уцяміць, за якія ж заслугі іх узнагароджваюць, бо бачаць свае паводзіны не геройчнымі, але папросту — чалавечымі. «*Нам няма за што атрымліваць той медаль. Мы — як усе*», — кажа дзед Міхал. А, між тым, гісторыя старых сужэнцаў вартая асобнай ваеннай аповесці. І гэта ўжо «прывітанне» ад Васіля Быкава.

Мастацкую прозу У. Арлоў піша па-руску, але паколькі яго сюжэты настолькі заглыбленыя ў беларускую рэчаіснасць — мінулую ці сучасную, то часта ён не можа абысціся без беларускіх слоў. Таму ў рускамоўным тэксце вельмі часта з'яўляюцца беларускія лексемы, у двухкоссі, з тлумачэннем кшталту «як у нас гавораць» або і без яго. Гэта дазваляе думаць, што яго проза можа быць з поспехам перакладзеная і на беларускую мову.

Уладзімір Арлоў перакананы, што жыццё — найлепшы рэжысёр, яно дае і сюжэт, і герояў, і нават мастацкую дэталь варта не ствараць, а проста «падгледзець» альбо «падслухаць»… Нібыта змяншаецца роля аўтарскай творчай волі, фантазіі і нават таленту. Але ў гэтым У. Арлоў сам сабе і супярэчыць: каб успрымаць жыццё як мастацтва ва ўсіх яго дробязях і дэталях і мець здольнасць перадаць гэта іншым, трэба мець талент — мастака, рэжысёра і — як бы настойліва сам аўтар трылогіі не пратэставаў супраць такога азначэння — пісьменніка.

**Жанна КАПУСТА**

**Даведка «ЛіМа»:**

**Рэжысёр, сцэнарыст, пісьменнік Уладзімір Арлоў рана вызначыўся з выбарам прафесіі: «Недзе з восьмага класа я... пачаў рыхтаваць сябе да “жыцця ў мастацтве”. Веды пра “найважнейшае” з іх атрымліваў з трох крыніц: з чытання даваенных, багата ілюстраваных польскіх часопісаў “Кіно”; з вывучэння, перапісвання, а бывала, што й “пазычэння” некалькіх старонак небагатай кіналітаратуры ў гродзенскай гарадской кнігарні; з прагляду ўсіх фільмаў, што ішлі на экранах кінатэатраў “Спартак” (зруйнаваны з мэтай пабудовы плошчы і ГУМа), “Чырвоная зорка” і клубаў». Нарадзіўся 6 студзеня 1938 года ў Баку, у сям'і служачых: бацька Аляксандр Віктаравіч працаваў у сістэме «ОСОАВИАХИМ», маці, Валянціна Маркіянаўна, — у тыпаграфіі. Выхоўваўся бабуляй. «Усе мяне часта вадзілі ў цырк, у тэатры — рускі, лялечны, азербайджанскі — і, вядома ж, у кіно». Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (цяпер Акадэмія мастацтваў) — выпускнік рэжысёрскага факультэта. Працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм»: памочнік і асістэнт рэжысёра, рэжысёр-практыкант. З 1963 па 2002 год — у Дзяржтэлерадыё, творчым аб'яднанні «Тэлефільм» (кінарэжысёр-пастаноўшчык вышэйшай катэгорыі). Аўтар 26 работ у 23 праектах. Фільмаграфія ўключае мастацкія і дакументальныя стужкі, канцэртныя пастаноўкі. Аўтар эсэ, мемуараў, мастацкай прозы.**

# Перамагчы рэджымераў

**Кнігі маладой пісьменніцы Лады Ксенафонтавай рэцэнзавала неаднойчы. Яе апантанасць літаратурай выклікае здзіўленне і захапленне. Пачаўшы пісаць дванаццацігадовай, Лада за апошнія гады выдала чатыры кнігі. Творчасць празаіка-падлетка выклікае цікавасць і як сацыяльна-культурная тэндэнцыя нашага часу, якую неабходна вітаць, і як выяўленне пэўных законаў псіхалогіі творчасці, а гэта тая сфера, якой мне прафесійна даводзіцца займацца, ва ўсялякім разе, выкладаць адпаведную дысцыпліну ва ўніверсітэце.**

Ладзе ўласцівыя дапытлівасць і цікаўнасць да незвычайнага. Адсюль яе фенаменальная эрудыцыя, на якую я звяртала ўвагу ў папярэдніх рэцэнзіях. Начытанасць, шырокі кругагляд дазваляюць Ксенафонтавай ствараць рэчы пэўнага жанру, цяжкага, нават непад'ёмнага і для сталых літаратараў — фантастыку. З чатырох кніг Лады тры напоўнены фантастычнымі сітуацыямі і нават неверагоднымі героямі: так, у адной з аповесцей персанажы, якія дзейнічаюць нароўні з людзьмі, — мабільныя тэлефоны.

Новая кніга пісьменніцы «Сістэма» — і якасна новы ўзровень фантастыкі. Тут побач з паказам тэхнічных навацый аўтарская думка рухаецца да філасофска-сацыяльных абагульненняў. Такім чынам, кніга падлетка развівае плённыя традыцыі як савецкай фантастыкі (І. Яфрэмаў, А. і Б. Стругацкія, Кір Булычоў), так і замежнай, скажам, Рэя Брэдберы. Дзеянне рамана «Сістэма» адбываецца ў 2693 годзе. Аповед вядзецца ад імя 14-гадовай дзяўчынкі Джанін, якая жыве ў ідэальнай дзяржаве Ньюленд, што аб'ядноўвае Паўночную і Паўднёвую Амерыку. Гэта дзяржава, дзе ёсць абсалютна ўсё.

Багацце Ньюленда ўражвае. Тут нават аднавіліся некаторыя заваяванні мінулага. Так, доўга кантактуючы праз тэхнічныя прыстасаванні, людзі, асабліва дзеці, усё ж вярнуліся да жывых стасункаў. Вярнулася і падлеткавая мода XXI стагоддзя — курткі, джынсы (як без іх), толькі з адлюстраваннямі твару гаспадара штаноў у розных ракурсах (!). Ясна: аўтар-падлетак не можа ўявіць сябе ў іншым адзенні — не ў бліскучых жа камбінезонах, атрыбуту таннай літаратурнай і кінафантастыкі, хадзіць! Лагічна: калі захоўваецца пэўны фізіялагічны тып чалавека, значыць, для яго неабходны і пэўныя віды адзення, і яны не могуць не быць кансерватыўныя.

Праўда, мода ў дэталях змянялася ў Ньюлендзе кожны тыдзень. А дзе падлетку можна паказацца ў новым адзенні? Безумоўна, у школе. У дваццаць сёмым стагоддзі не існуе дыстанцыйнага навучання, якое нам прарочаць, — традыцыйная школа засталася. А настаўнікі — і людзі, і робаты. Старонкі пра сістэму адукацыі напоўнены ў рамане цікавымі, жывымі падрабязнасцямі — відаць, што аўтар добра іх прадумала. Скажам, ніхто з дзяцей не ўмее пісаць ад рукі — малююць спецыяльнымі палачкамі на экранах планшэтаў. Сшыткі сталі электроннымі і называюцца меморы-тыны. Падручнікі адышлі ў нябыт (мара ўсіх школьнікаў і студэнтаў): сумна, надакучліва чытаць цэлыя старонкі тэкстаў! Цяпер па ўсіх дысцыплінах — коміксы, дзе нешматлікая вербальная інфармацыя вынесена ў каляровыя рамачкі. Міжволі ўспамінаю савецкага педагога-наватара Шчацініна з яго «апорнымі сігналамі». У яго школе былі значныя поспехі, але хто пра гэта цяпер памятае…

Навуковыя распрацоўкі і адкрыцці заўсёды стымулявалі фантастыку, падказвалі новыя сюжэтныя хады. І ў гэтым — велізарнае значэнне фантастычнай літаратуры. Так і аўтар «Сістэмы» развівае ўжо вядомыя тэхналагічныя ідэі, выдатна іх папулярызуе. Неабавязкова насычаць твор неверагоднымі навацыямі, важна так зацікавіць чытачоў, каб яны самі рабіліся аўтарамі будучых навацый, рыхтаваць вынаходнікаў. У гэтым плане Лада Ксенафонтава сваю задачу разумее выдатна.

Гераіня твора і яе сябры жывуць, занятыя ў асноўным школьнымі праблемамі, да пары да часу не задумваючыся пра іншае. Але нельга сказаць, што іх жыццё бесклапотнае, што ў грамадстве усталяваўся камунізм і ўсе даброты атрымоўваюцца бясплатна. Акрамя звычайных долараў, кожны грамадзянін, пачынаючы з 13 гадоў, за ўсё павінен плаціць… эмоцыямі, якія вымяраюцца ў спецыяльных адзінках — эмабітах. Пэўныя чыпы — эмоцык-тайкеры — ужыўляюцца ў галаву і счытваюць эмоцыі з мозгу. Эмоцыі паступаюць на спецыяльныя карткі, а з іх — у банк. У краіне найперш развіваецца тое, што выклікае эмоцыі. На гэтым грунтуецца ўся культура, таму што для яркіх эмоцый неабходна цікавае, незвычайнае, выбітнае. Як вынік пастаянна з'яўляюцца новыя кінастужкі, часопісы, кнігі, модныя аксесуары, прыгожыя аўтамабілі, арыгінальная мэбля, вытанчаная кулінарыя. Усё, як у нас. І ўсё ж у людзей будучага не хапае эмоцый, каб імі плаціць за даброты, нават за самае неабходнае. Так, у сябра гераіні бацькі — флегматыкі, і таму эмоцый на іх картках зусім мала, у выніку яны купляюць самую танную ежу і рэчы. Настаўніца біялогіі ў школе нярэдка прыходзіць у слязах і скардзіцца, што ў яе на картачцы зноў не хапіла эмоцый.

Больш за тое, у краіне знаходзіліся людзі, якія не жадаюць плаціць эмоцыямі. Калі ўводзілася гэта сістэма, цэлы горад — Прэтл — паўстаў. Ён працягваў існаваць асобна, аўтаномна, і туды ўцякалі некаторыя нязгодныя з сістэмай асобы. Каб змагацца з такімі маргіналамі, сістэма выхоўвае спецыяльных паліцыянтаў — рэджымераў. Яны — адзіныя, хто не плаціць эмоцыямі. Акрамя таго, ім ужыўляюцца чыпы, якія даюць неверагодную сілу, хуткасць і спрыт.

Спачатку Джанін прымае сістэму цалкам. Але дапытлівая і разумная дзяўчынка пачала заўважаць мінусы ў яе функцыянаванні. Вось памірае бацька аднакласніцы, які імкнуўся максімальна забяспечыць дабрабыт сям'і, але эмацыйны стрэс даводзіць яго да спынення сэрца. Вось страчвае прытомнасць у краме маці аднаго з хлопчыкаў: ёй не хапіла эмоцый, і яна ўключыла спецыяльны рэжым, які штучна выклікаў пачуцці, — картка пачала іх цягнуць…

Далей — болей. Джанін звяртае ўвагу, што ў горадзе няма сталых людзей, — тут не дажываюць да старасці. Эмоцыі выпальваюць арганізм — у трыццаць — сорак гадоў людзі адыходзяць. Дзяўчынцы стала страшна, што яе бацькам суджана так хутка памерці. Пасля доўгіх роздумаў і сумненняў Джанін пакідае сям'ю і бяжыць у мяцежны горад Прэтл. Задача нялёгкая, бо дзяўчынку пераследуюць трое маладых рэджымераў з іх неверагоднымі магчымасцямі. На шматлікіх старонках апісваецца прыцягальная для маладых чытачоў пагоня. Джанін удаецца перахітрыць хлопцаў і пасяліцца ў камуне маладых барацьбітоў з сістэмай.

Ужо ў папярэдняй кнізе маладая аўтарка імкнулася да асобаснай характарыстыкі персанажаў. Як у сталай пісьменніцы, у яе ёсць цікавасць да псіхалагічнага аналізу, а значыць, вялікі творчы патэнцыял.

> *«Навуковыя распрацоўкі і адкрыцці заўсёды стымулявалі фантастыку, падказвалі новыя сюжэтныя хады. І ў гэтым — велізарнае значэнне фантастычнай літаратуры. Так і аўтар «Сістэмы» развівае ўжо вядомыя тэхналагічныя ідэі, выдатна іх папулярызуе. Неабавязкова насычаць твор неверагоднымі навацыямі, важна так зацікавіць чытачоў, каб яны самі рабіліся аўтарамі будучых навацый, рыхтаваць вынаходнікаў. У гэтым плане Лада Ксенафонтава сваю задачу разумее выдатна.*



У новай кнізе яшчэ больш заглыблення ў характары і тэмпераменты персанажаў. Асабліва цікавыя тыя, хто не скарыўся перад сістэмай. Джанін разам з імі праводзіць некаторыя акцыі: час ад часу вяртаецца ў Ньюленд і распаўсюджвае ў людных месцах інфармацыю ў выглядзе паштовак, закладак, сувеніраў пра несправядлівае і жудаснае выцягванне эмоцый.

Дзеянні атрада аказаліся паспяховымі: за год у Прэтл збегла ў чатыры разы больш асоб, чым за апошнія пяць гадоў. Нямала старонак у рамане прысвечана псіхалагічнаму перараджэнню рэджымераў. Акрамя таго, насельніцтва Ньюленда пачало адмаўляцца ад рэчаў, за якія неабходна плаціць эмоцыямі.

Урэшце таямніца сістэмы — нашто ўладарам свету чужыя эмоцыі — раскрываецца. Аказалася, у грамадстве ўладу захапілі андроіды, якія перараблялі эмоцыі людзей у энергію, неабходную для іх існавання. Ніхто не заўважыў, што краінай кіравалі робаты: «каб заблытаць людзей, усё было прадумана да дробязяў». Але інсургенты раскрылі змову робатаў і перамаглі, знішчылі сістэму. Прэтл стаў самастойным горадам-дзяржавай. Джанін паступіла ва ўніверсітэт і пакахала былога рэджымера. Уладкаваліся і іншыя персанажы рамана. Шчаслівы канец. І правільна: маладыя павінны з аптымізмам глядзець наперад.

**Таццяна ШАМЯКІНА**

*З пошты «ЛіМа»*




# Насуперак модным стандартам

**Пісьменніца Алена Масла ў казцы «Мяне завуць Лахнэска» нагадвае дзецям пра тое, што ўсё ў свеце адносна. Асабліва што датычыць прыгажосці. Для дзяцей прывабнасць значыць вельмі шмат. Цяжка дамагчыся прыязнасці дзіцяці, якому не падабаецца нейкая рыса нашай знешнасці...**

Аўтар казкі распавядае пра незвычайны выпадак: у простай беларускай сажалцы з'яўляецца істота з возера Лох-Нэс. Усе ведаюць яе як пачвару, дражняць, і Лахнэска вырашае збегчы. Але самае галоўнае — у яе знікае пачуццё годнасці, упэўненасці, веры ў сябе... І гэта толькі з-за модных стандартаў, бо яе знешнасць не адпавядае патрабаванням моды. Засмучаным пачуваецца і жыхар сажалкі апалонік Апалон. Ён мае гучнае і прыгожае імя, таму ўсе чакаюць, што ён будзе прыгожым і ладным. Але Апалон занадта маленькі і не задаволены сваім выглядам. Гэта аб'ядноўвае Апалона і Лахнэску — цяпер яны сябры...

У творы шмат казачных матываў: незвычайнае сяброўства, раптоўны цуд, выкананыя пажаданні, пераўтварэнне ў рыцара і прынцэсу, змена ўнутранага стану герояў... Цікавыя, прыгожыя і чароўныя ілюстрацыі да выдання спадабаюцца не толькі маленькім чытачам, але і дарослым.

Сонейка свеціць усім аднолькава — гэтым заканчваецца казка з такой, здавалася б, агульнавядомай мараллю. Іншая рэч, што ў жыцці чамусьці атрымліваецца інакш.

**Яўгенія ШЫЦЬКА**



Валянціна ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ

## Дзе ты?..

*Разганяе вятрыска аблокі,
І яснее зноў сонейкам дзень.
Дзе ты, сокал мой яснавокі,
Мой адзіны, мой любы, дзе?*

*Сонца выясніла нябёсы,
Заблакітнела неба ўсцяж.
А ў нас з табой не збылося
Загаданай казкі жыцця.
Разляцеліся сцежкі жыццёвыя
Ў нашым лецейку маладым.
Толькі помню ўсе твае словы я,
Што так сэрцайка зачароўвалі.
Ды ў тумане парой вечароваю
Не знайсці ўжо нашы сляды...*

*Мы з табою, як сонца й месяц,
Усё не сыдземся аніяк:
Сонца днём толькі грэе-свеціць,
Месяц ясны — начны маяк.*

*Разышліся дарожкі ў небе,
Ці сустрэнемся ў жыцці?
А мне бачыць цябе так трэба,
Паміж соцень тысяч знайсці...*

*Разляцеліся сцежкі жыццёвыя
Ў нашым лецейку маладым.
Толькі помню твае ўсе словы я,
Што так сэрцайка зачароўвалі,
Ды ў тумане парой вечароваю
Не знайсці ўжо нашы сляды...*

***

*За залевамі, за мяцеліцай
Усё да лепшага ў нас пераменіцца,
Цёплынёй неба сінь запраменіцца
І зіма вясною абернецца.*

*І мелодыя светла-пяшчотная,
Што ліецца з нябёс свабодна так,
Зноў напомніць забытае роднае,
Ад якога душа лагоднее.*

*Матылькова-птушынымі стайкамі
Ўраз сняжынкі халодныя сталі ўсе.
Ды ільдзінкі ў сэрцах растайваюць,
Што былі балюча-растайнымі.
Стала блізкім, было што дальняе,
Як з зямлёю неба світальнае.*

***

*Не дай мне, Божухна, прашу, не дай
Сябе узносіць, іншых прыніжаць.
Калі магу штосьці — Твой то Боскі дар,
А мне яго змагчы бы захаваць.*

*То не мая заслуга, а Твая,
Што зорка Творчасці і мне гарыць.
Хіба ж магу, мой Уладару, я
Сабе прысвоіць усе Твае дары?*

*Дазволь адно дзяліцца імі мне,
Ў дабры, пакоры іншым несучы.
Ў душу не дапускаць гардыню, гнеў,
І словам не калечыць, а лячыць.*

***

*Я табе нічым не абавязана,
Апрача кахання
Юнага, што не заўсёды звязвае,
А бывае найчасцей растайным...*

*Я табе нічым не абавязана,
Акрамя любові,
Акрамя таго, што ўсё-ткі сказаны
Першаму табе тры тыя словы...*

*Я табе нічым не абавязана,
Акрамя сцяжынак,
Паміж тымі ліпамі ды вязамі...
Толькі ж замяло іх, засняжыла.*

*Я табе нічым не абавязана,
Акрамя ўспамінаў,
І яны прыходзяць, незаўважныя
Для старонніх, як і быць павінна.*

***

*Адхлынула горка-пенна
Першая хваля кахання...
Я забуду цябе, напэўна,
І нашыя ўсе спатканні...
Я забуду пагляд і постаць,
Твае словы, голас забуду...
Толькі гэта сказаць так проста:
— Я забуду! —
А ці ж забуду?..*

***

*Навальніцаю нечаканай,
Громам сярод яснага неба
Ты з'явіўся... І стаў каханым.
І мне болей нікога не трэба.*

*Сэрца з рытму раптоўна збілася.
Палаянкай навекі стала.
У вачах тваіх утапілася,
Закаханая, — і прапала...*

*Ці ж прапала? А мо акрыліла
Нам каханне душу абодвум,
Бо і я тваёй стала мілаю,
Як і ты мне, адзіны, родны.*

***

*А час сляды замятае...
Ды не паддамся адчаю —
Мару, люблю і кахаю.*

*Працай, турботамі будзен
Хай перапоўнены будзе
Дзень, каб дабро дарыць людзям.*

*Сёння і заўтра — бясконца,
Покуль жыву тут, пад сонцам,
Покуль жыву — аж да донца.*



Таццяна МАЦЮХІНА

## Знак Боскай веры

*У маім свеце
няма цемры.
У маім свеце
ёсць толькі святло.*

*Я шукаю рамонкі —
знак Боскай веры.
Мой анёл пакідае мне
крылаў цяпло.
У маім уяўленні
анёл-заступоўца —
мой Настаўнік і нават
у нечым манах.
Ён шануе людзей,
любіць дожджык і сонца.
І шукае са мною
адвечны свой шлях...*

***

*У вершы — напеўнасць,
У словах — пытанне.
Вяртанне ці вернасць.
Пароль ці прызнанне.
У веры — імгненне,
У фарбах — сусвет.
У Боскім натхненні
Схаваны сакрэт.
У гуках — надзея,
У словах — пытанне.
Малюнак як дзея.
Жыццё як блуканне
Па сціплых куточках
Збалелай душы.
Рамонак у жыце.
Малюй ці пішы!*

***

*Спакой душы. І раўнавага.
Чаканне. Радасць. І адвага.
Уменне бачыць свет у свеце,
Ў якім блукае моцны вецер,
Ў якім няма тых мітуслівых,
Зайздросных, злых і палахлівых
Паўкрокаў дзеі, слоў наступстваў,
Дзе не бывае нейкіх глупстваў,
бо ў душы — спакой і вера
як цуд Сусвету, Бога сфера.*



Фота Кастуся Дробава.



Віктар ЯРАЦ

## На беразе сонца

*На тым беразе сонца, дзе мама жыве.
На тым беразе цёпла
і ў завейныя сцюжы.
Там вясна дорыць тайны
незабытай траве,
вецер восеньскі лісце
пласцінкамі кружыць.
Там варожаць снягі і варожаць вятры,
рассыпаючы белыя карты і чорныя
ад світальнай зары да вячэрняй зары,
акраплёныя знакамі і зямнымі, і зорнымі.*

***

*Шчаслівы хлопчык тым,
што ёсць бабуля —
яна сагрэе ласкай-дабрынёй
і цёплай коўдраю зімовы сон атуліць,
і казкай, а не роспачу нямой.
А хлопчык вырасце і будзе верыць людзям
у свеце, дзе ёсць жорсткасць і падман,
і сябра ёсць — маленькі белы пудзель, —
ён і не здрадзіць, і не зробіць ран.*

## Помню

*Словы цёплыя і позіркі за мною
зноў ідуць з далёкіх сцюжных зім —
там яшчэ без горычы і дым,
не падвешаны журбой зямною.
Там з вакзальнаю чаргой і з неспакоем
голас ціхі парадніўся твой,
а сняжынкі клічуць грайным роем,
ружаю марознай — вышынёй.
Хочуць што данесці ў свеце раннім
да тваіх разбуджаных вакон,
за якімі — залатыя грані
на бярозах сонечных ікон?*

***

*...з рук вясло, як рыба, слізганула —
ці злаўлю яго, ці не злаўлю
тут, дзе рэчка крыгаходным гулам
падганяе маладзец зямлю?
Толькі неба ведае, магчыма,
хоць з адказам не спяшае ўсё ж:
ці тваімі сінімі вачыма
зноў падсвеціцца азяблы Сож?
Хоць бы на адзін на міг кароткі
твой пагляд пасланы вітанне дню —
і вясло злаўлю, і разам з лодкай
крохкіх крыг вярчэнне абміну...*

## Шчасце там...

*Шчасце там было, дзе ты са мною,
дзе на ўсіх сцяжынах і шляхах
слухалі пад звонкаю струною
свет — ён і ў завеі бэзам пах.
Россыпы сняжынак хмельным цветам
падалі, ляцелі з вышыні,
далеч адгукалася прыветам,
варажбою белаю пра дні.
Вуснаў цеплыня плыла на вусны,
а рукою грэлася рука.
Шчасце там, дзе і завулак вузкі,
як любві шырокая рака.
Снегам нерастайным годы беляць
скроні ўсё мацней і без завей.
Шчасце там, дзе сэрца ўмее верыць
Светлыні над веерамі вей...*

***

*Гэта ты, калі разводдзе-пойма
будзіць луг ад зацяжнога сну,
для мяне гартаеш дзённік промняў —
золатам хрышчоную вясну.*

*Гэта ты вяртаеш мне здалёку
не ў адных у полі васільках
лета, дзе плыве бусліны клёкат
на світальны прадзедаўскі шлях.*

*Гэта ты галінкай чабаровай,
подыхам зарэчным мурагу
восеньскай парою вечаровай
адганяеш ад вакон смугу.*

*Гэта ты ў мяцеліцу з марозам,
дзе гасцяць у сад бягуць зайцы,
не даеш замёрзнуць у дарозе —
клічаш на агеньчык свой зайцы...*

## Нашы мамы

*Рукі сіверам брала калючым не раз,
працавала на сцюжах сцюдзёных
вятрамі,
а любові, цяпла і ў бясчуцце не гас
ваш агеньчык, матулі, —
свет трымаецца вамі.
Век шурпаціў вам рукі,
не сшурпаціў душы.
Вочы засціла вам
не аднымі дымамі.
І пра што слоў прыгожых, жыццё,
ні кажы —
свет трымаецца вамі —
мамы.*

***

*Дзякуй, неба, што сінім і сонечным
шанцам
ты знямогламу дорыш
бальзамнай гаючасці вецер,
а знямеламу — голас,
а бяскрыламу — крылы,
каб мог з вышыні абдымацца
і ляцець праз стагоддзі над зямлёй,
на якой смех дзяцей —
эстафетай бяссмерця...*

# Адценні бэзу

*Апавяданне*



Фота Кастуся Дробава.



Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ

Штосьці змянілася. Свет перакуліўся, пераключылі рэгістр, Нябесны Мастак разбавіў усе зямныя фарбы нейкім новым адценнем. Хаджу як пад кайфам. Па тых жа вулках, што і пяць, і дзесяць гадоў таму, але адначасова нейкіх іншых.

Яшчэ даўно я вырашыла ніколі нікога не кахаць. Калі прыйшла да высновы, што каханне — хітрая прынада, якую прыдумаў Вышэйшы Вынаходнік для сваіх стварэнняў, каб не спыняўся іх род, каб нараджаліся дзеці. Каб не было брыдка *гэта* рабіць. Не, я ў пастку не траплю!

Ці не надта глыбакадумныя высновы для падлетка? Магчыма, але… жыццё адкрылася мне з адпаведнага боку… Як я потым шкадавала, што, натрапіўшы на той жоўты сшытак у сумцы са старымі дакументамі, разгарнула яго і пачала чытаць… Гэта быў даўні нататнік маёй маці. Якраз таго перыяду, калі яны пажаніліся з маім бацькам, потым яна была цяжарная мной. Я адчула самы сапраўдны шок, калі з запісаў зразумела: месяцаў за шэсць да майго нараджэння яна збіралася зрабіць аборт. Бо бацька сур'ёзна захварэў і дактары не давалі суцяшальных прагнозаў.

Я даравала б ёй тое, каб раней не чытала яе лістоў да яго, поўных шчырага пачуцця, калі яна чакала яго з арміі. І вось — у такі момант забіць дзіця ад чалавека, які ёсць сэнсам твайго існавання? Тады ў маёй душы ўсё перавярнулася, я зразумела, што свет працяты хлуснёй ад пачатку і да канца, што яна, як нябачная павуціна, паўсюль…

Тое вострае падлеткавае перажыванне наклала цяжкі адбітак. Ніколі я не старалася нікому спадабацца. Усе мае аднакласніцы, а пазней аднакурсніцы вылузваліся са скуры, каб модна апранацца, не ўпусціць «перспектыўнага» кавалера, мець магчымасць тусавацца ў сталічных клубах. Я ж лічыла іх высілкі марна страчаным часам. Нешматлікія мае цікавасці былі звязаны з кнігамі, класічнай музыкай і светам раслін — таму мы жылі ў паралельных сусветах і амаль не судакраналіся.

Тым не менш прыйшоў час — і на мне таксама прырода здзейсніла сваю адвечную хітрасць, вынікам стала маё замужжа і нараджэнне дзіцяці. Але нічога падобнага да таго, што са мною адбываецца цяпер, я не «праходзіла».

Калі дачка трошкі падрасла, я наважылася ажыццявіць сваю даўнюю мару: навучыцца граць на піяніна. Слых у мяне ёсць, я люблю спяваць і «прайграваць» у галаве ўпадабаныя мелодыі, але рабіла гэта похапкам, паміж іншым, а сур'ёзна займацца музыкай не выпадала. І вось з'явіўся на тое час, душэўны покліч. Па аб'яве ў газеце хутка знайшла выкладчыка па класе фартэпіяна, які навучаў дарослых. Два разы на тыдзень на некалькі гадзін малую адвозіла да мамы альбо да свякроўкі, а сама ехала на заняткі. На мой трыццаты дзень народзінаў муж падараваў мне прыгожае, зробленае пад даўніну, чорнае піяніна. Я магла гадзінамі сядзець за ім, націскаць клавішы і слухаць, слухаць гукі…Так па іх згаладалася за жыццё, што цяпер старанна ўбірала ў сябе, насычалася, напаўнялася імі да краёў.

Выкладчык мой аказаўся прафесіяналам найвышэйшага ўзроўню, былым настаўнікам дзіцячай музычнай школы. Знешне падобны да кампазітара Рахманінава, цярплівы, роўны, далікатны, спадар Артур умеў зацікавіць і дзяцей, і дарослых. З ім можна было размаўляць пра што заўгодна, не толькі пра музыку. Яго кватэра аказалася застаўленай шафамі з самымі рознымі кнігамі, і мы хутка паразумеліся, калі высветлілі, што любім адных і тых жа аўтараў.

Да таго ж (і гэта, бясспрэчна, істотны плюс) ён на пенсіі — розніца ва ўзросце ў нас больш як трыццаць год. А значыць, ніякія там жарсці альбо каханні немагчымыя апрыёры.

…Намагаюся згадаць, з чаго ўсё пачалося, і — не атрымліваецца… Ды што пачалося? Дакладна не каханне! Бо ніколі не думала пра фізічную блізкасць з ім! Але… што ў такім разе?

Аднойчы, як толькі пераступіла парог яго кватэры, ён загадаў зірнуць у люстэрка. Што ўжо там не так? Гляджу і нічога не разумею: усё як мае быць. Тады ён стаў за мною, таксама паглядзеў у люстра і сказаў, што ў нас аднолькавыя вочы. І што гэта першакрасавіцкі жарт. (Як жа мне даспадобы яго манера жартаваць: без ценю ўсмешкі, з абсалютна сур'ёзным тварам!) А вочы ў нас з ім сапраўды аднаго колеру: светла-карыя.

Другі раз, калі я збіралася сыходзіць і дастала з сумкі ключ ад аўто, каб пасля на холадзе доўга не шукаць, ён выслізнуў з рукі і ўпаў на падлогу паміж намі. Па інерцыі я адразу за ім нахілілася, Артур зрабіў тое ж самае. Яго далонь апусцілася зверху на маю. Але нічога асаблівага я не адчула. Не скажу, што мне было тое прыемна альбо наадварот.

Часам ён сядаў за інструмент побач са мной і мы спрабавалі граць у чатыры рукі, пры гэтым нашы пальцы раз-пораз злёгку судакраналіся. Я не адчувала нічога падобнага да ўсялякіх там жарсных апёкаў, ніякім «агнём» мяне не апальвала, ніякай «іскрынкі» не ўспыхвала. Але хацелася, каб тое доўжылася бясконца. Я не магла зразумець, як я раней жыла без гэтага: калі патанаеш у суладнай, часам спакойнай, а часам бурлівай плыні гукаў, яны плывуць цераз цябе, скрозь цябе, і ты робішся такой жа бязважкай, і ляціш, ляціш некуды ў нябёсы, і толькі рытм пульсуе дзесьці ўнутры…

А рукі яго заўсёды былі акуратныя, дагледжаныя. Так, назіраючы за яго ігрой, аднойчы падумала: што можа быць больш сексуальным, чым такія тонкія рукі з амаль празрыстай скурай і сінімі жылкамі, што прасвечваліся пад ёю, на бела-чорных клавішах? Але я падумала пра гэта як пра нешта аддаленае, што не мела да мяне ніякага дачынення. Як глядзіш на карціну і атрымліваеш ад яе асалоду.

Раней я ніколі не любіла сваё імя, бо чула ў ім нешта жорсткае і беспаваротнае: Та!-ша!, а часам — шыпенне змяі альбо шоргат павучыных лап: Та-ш-ш-ш-а. Але ж з яго вуснаў, прамоўленае яго голасам (нізкім, хрыплаватым барытонам колеру грэцкага мёду) яно гучала для мяне як найсаладзейшая музыка.

Ён заўсёды ў мяне пытаўся, як справы, як настрой, як здароўе маёй дачушкі; пра штосьці мы размаўлялі, ён часта жартаваў у сваёй заўсёднай сур'ёзнай манеры, я ж усміхалася на яго жарты, але самой выдумляць розныя хохмы ды каламбуры не было ахвоты. Я ведала, што гэтак жа ён ставіцца і да іншых сваіх вучняў (іх было нямала — некалькі разоў мы ўсе разам хадзілі на канцэрты ў Філармонію).

Навучанне ішло лёгка, бо мне вельмі падабалася ўсё, чаму ён вучыў. Шмат займалася я і дома, вучыла творы. Пры гэтым паўставала ўражанне, што я не даведваюся нешта новае, а толькі ўспамінаю даўно вядомае, але забытае. Я быццам вярталася ў далёкае маленства, калі гадавалася ў бабулі з дзядулем. Мяне ўкладалі спаць адну ў цёмным пакоі, а каб не было страшна, пакідалі ўключаным радыё над ложкам. Спачатку там перадавалі навіны. Жанчына прыемным, але халодна-напружаным голасам распавядала, што і дзе адбылося. А потым ставілі музыку, звычайна канцэрты для фартэпіяна. Тыя гукі падхоплівалі мяне ды імчалі ў невядомыя далячыні, на недасяжныя планеты. Туды, дзе я ніколі не бывала раней і дзе заўжды пачувалася шчаслівай, сустракала сяброў, якія размаўлялі са мною пра нешта добрае…

Спадар Артур казаў, што я вельмі здольная вучаніца і што калі так пойдзе далей, то неўзабаве мы памяняемся ролямі.

Недзе на ўзроўні звычайнай цікавасці я разважала, ці ёсць у яго жанчына. Бо ён заўжды быў акуратна апрануты ў дасканала адпрасаванае адзенне, гладка паголены; у хаце — ідэальны парадак, нідзе ні пылінкі. Немагчыма, меркавала я, каб мужчына сам так глядзеў за сабой. Але нікога ў яго кватэры ніколі не бачыла, акрамя такіх, як сама, вучаніц.

За два гады, што мы займаліся (і прайшлі пяцігадовы курс музычнай школы), ён стаў для мяне не тое што сябрам, а вельмі істотнай часткай мяне самой. Ён быццам адкрыў ува мне нейкую глыбінную сутнасць, пра існаванне якой я не мела ўяўлення дагэтуль. Але зразумела гэта толькі пасля…

Нашы ўрокі былі для мяне сапраўдным святам. Мяне перапаўняла нейкая магутная энергія, яна ж дапамагала мне і дома хутка ўпраўляцца з усімі справамі, праблемамі, кудысьці мяне штурхала, прымушала нешта здзяйсняць, шукаць, спрабаваць новае і не давала спыняцца. Мне нават спаць тады хацелася нашмат меней, чым звычайна: чатыры-пяць гадзін на суткі. Гэта быў самы шчаслівы перыяд у маім жыцці.

У той майскі дзень, калі я прыйшла да яго на заняткі, ён сказаў, што больш нічому навучыць мяне не можа і не бачыць сэнсу ў далейшых сустрэчах. Параіў знайсці больш прафесійнага выкладчыка, трапіць на праслухоўванне ў які-небудзь музычны калектыў, каб браць удзел у розных конкурсах. І хоць раней ён некалькі разоў жартаваў на гэту тэму, сказанае ім стала для мяне настолькі нечаканым, што на нейкі час я страціла здольнасць нешта разумець і рэагаваць на гэта. Мяне быццам наскрозь працялі іржавым цвіком недзе ў сярэдзіне горла ды так яго там і пакінулі. Нават не помню, развіталася я з ім ці моўчкі выйшла з кватэры. Помню толькі, што ў двары яго дома шалёна буяў бэз. Яго было так шмат, самых розных адценняў (ніколі раней не думала, што бэзавы колер мае іх столькі), паўсюль лунаў яго тонкі водар. (Цяпер не магу глядзець на бэз у пару цвіцення — ён асацыіруецца ў мяне са стратай чагосьці дарагога.)

Я была тады без аўто (давялося пакінуць у рамонце). Не ўяўляю, як у такім стане даехала б дадому. Кудысьці доўга ішла без мэты. Унутры несціхана гучала адно толькі пытанне: чаму?!

Нават калі дапусціць, што ён нейкім чынам прачытаў мае думкі (бывае, што людзі валодаюць усялякімі фенаменальнымі здольнасцямі), то не было там такога, што магло б яго неяк насцярожыць, спужаць ці адштурхнуць. Хаця, варта прызнацца, ён стаў для мяне нязменным суразмоўцам, незаўважна для сябе я настолькі моцна «ўрасла» ў яго, што часам тэлефанавала яму па якім-небудзь дробязным пытанні, напрамую не звязаным з нашымі заняткамі, — настолькі важным мне было яго меркаванне. Нават калі была ўпэўнена, што яно супадзе з маім на ўсе сто.

Раптам падумалася: а што, калі гэта — розыгрыш і вось зараз ён пазвоніць, запытаецца: што, маўляў, паверыла? Так захацелася раптам пачуць яго голас… Але тэлефон маўчаў. Дзень, два, цэлы месяц, другі… Потым зразумела, што ён не пазвоніць. Хаця працягвала чакаць па інерцыі. У галаве «пракручваліся», быццам запісаныя на стужку, усе размовы з ім. Я помню іх падрабязна, кожнае слова, інтанацыю. Усе яго «сур'ёзныя» жарты. Я працягвала жыць па неабходнасці, літаральна за шкірку выцягваючы сябе з ложка раніцай. Чаму ён так са мной абышоўся? Я не жадала з ім ніякіх пасцельных прыгод, толькі б ён сядзеў побач. І размаўляў бы са мной альбо маўчаў. Хаця б зрэдку. Толькі адзін ён, адзіны ў цэлым свеце зразумеў маю душу і не спрабаваў яе ніяк перарабіць, націснуць на мяне, маніпуляваць (хай сабе і для дасягнення нейкай высокай мэты).

Днямі я выпадкова сустрэла Артура на аўтазапраўцы. Ён запраўляў свой «вольва», я стаяла ў чарзе за ім. Надыходзіла позняя восень. Ён быў апрануты ў доўгае чорнае паліто, капялюш — адразу яго пазнала са спіны, хаця ў такім адзенні яшчэ не бачыла. Сустрэча стала неспадзяванай і для яго. Мы перакінуліся некалькімі дзяжурнымі фразамі, але… ён забыў узяць рэшту, калі расплаціўся. А гэта былі немалыя грошы. Нібыта хацеў як найхутчэй збегчы ад мяне… У салоне яго аўто нікога не было. Няўжо ён так расхваляваўся? Бо зусім не падобны да расцяпы.

І вось — свет перакуліўся… Часам той іржавы цвік, што застаўся ў маім горле, пачынае варушыцца, круціцца, соўгацца туды-сюды. Асабліва пасля таго, як мне сніцца бэз самых розных адценняў. Тады я вастрэй адчуваю, як моцна мне яго не стае. Ніякіх ружовых сантыментаў — толькі б зрэдку чуць яго голас, размаўляць з ім. У такую часіну я сядаю за піяніна і развучваю новыя творы. І мне падаецца, што ўся туга, якая перапаўняе маю душу, знаходзіць выйсце і разам з імклівымі гукамі сплывае, пакідае мяне назаўсёды. Яшчэ я думаю: які ж Гасподзь Бог літасцівы да мяне, што даў мне ўсё гэта: музыку, маю дачушку, здольнасць так адчуваць. І, канечне, Артура…

І хоць у нас з ім ніколі нічога не будзе, мне чамусьці да вар'яцтва хочацца яму падабацца. Зараз іду ў краму набываць сабе завушніцы з цёмна-мядовага бурштыну. У такі ж колер афарбаваны яго нізкі, густы барытон. Я ведаю, ён не прапускае ніводнай прэм'еры ў Філармоніі. Мы абавязкова сустрэнемся.

# ВЫДАВЕЦТВА З ХАРАКТАРАМ,

## альбо Што робіць запатрабаванымі кнігі энцыклапедычнага кірунку?



Фота Яўгена Пясецкага.

Выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі» перасягае 50-гадовую мяжу існавання. Гэта — узрост сталасці і мудрасці, калі ўсталяваліся прыярытэты, ад якіх нельга адступаць. Іх вызначае характар выданняў, што спрыяюць распаўсюджанню ведаў. Пра тое, што хоча ведаць айчынны чытач, мы размаўляем з **дырэктарам выдавецтва Уладзімірам Андрыевічам**:

### ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАЕ

— Энцыклапедыі з'яўляюцца ўнікальным акумулятарам поглядаў і ведаў чалавецтва, люстэркам грамадства, якое стварае гэтыя выданні, і часу, у якім яны ствараюцца. Кожная нацыянальная энцыклапедыя становіцца пашпартам краіны, яе істотным культурным дасягненнем, індыкатарам сацыяльна-эканамічнага развіцця дзяржавы. Наша выдавецтва за 50 гадоў набыло ўнікальны досвед падрыхтоўкі фундаментальных энцыклапедый і з'яўляецца адзіным выдавецтвам краіны па выданні энцыклапедычнай і даведачнай літаратуры. Сёння неабходна ўлічваць і тое, што ў сучасным грамадстве пры самым шырокім развіцці інфармацыйных тэхналогій аб'ём навуковых ведаў імкліва расце, практычна падвойваецца кожныя пяць гадоў. Таму сёння, мяркую, трэба весці гаворку пра падрыхтоўку новай беларускай энцыклапедыі. 18-томная «Беларуская энцыклапедыя» ці 6-томнае выданне энцыклапедыі «Гісторыя Беларусі» рыхтаваліся напрыканцы мінулага стагоддзя, у нейкім сэнсе на хвалі рамантызму незалежнасці. Сёння, калі суверэнная Беларусь адбылася, калі асэнсаваны многія гістарычныя падзеі, калі Беларусь выпрацавала і мае свой погляд на сусветную супольнасць і імкнецца актыўна ўдзельнічаць у стварэнні мірнага і стабільнага свету, важна даць грамадству дакладна выверaныя і абгрунтаваныя веды пра ўсё гэта.

Калі разважаць, якім павінна быць новае энцыклапедычнае выданне, то паўстае пытанне: універсальнае ці нацыянальнае па сутнасці? Вядома, найперш нацыянальнае, але і ўніверсальнае таксама. Нацыянальны характар выдання абумоўлівае найперш тую змястоўную частку, дзе мы адлюстроўваем падзеі, факты, з'явы, асоб, — тое, што было і ёсць на гэтай зямлі. Але немагчыма не ўлічваць універсальны кірунак: гісторыю і развіццё нашай краіны мы суадносім з сусветнымі працэсамі. Напрыклад, нельга гаварыць пра Рэспубліку Беларусь і абмінуць яе суседзяў, іншыя дзяржавы сусветнай супольнасці. Універсальнае выданне будзе казаць і пра іх, але ў суадносінах з Беларуссю. Як у энцыклапедыі пра Беларусь абмінуць Польшчу, дзе да таго ж пражывае шмат беларусаў? Але пра нашу заходнюю суседку мы будзем даваць інфармацыю праз наш погляд на яе (не выключана, што ў іншых народаў ён будзе свой).

Улічваючы і вышэйзгаданае, амаль два гады таму мы вызначылі місію выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя», якую сфармулявалі так: на аснове фактаЛагічнага аналізу каштоўнасцей беларускага, нацыянальнага, яе ўнікальнасці і асаблівасці паказваць Беларусь як суверэнную дзяржаву, якая ўпершыню ў сваёй гісторыі стала незалежнай, але ўжо займае годнае месца ў сусветнай супольнасці. Пры гэтым «Беларуская энцыклапедыя», узяўшы на сябе ў нейкім сэнсе нацыянальны аспект, гарантуе, што прапануе крыніцу сапраўды навуковых энцыклапедычных ведаў пра Беларусь.

Паколькі тэхналогіі, звязаныя з інтэрнэтам, камп'ютарам, смартфонамі, развіваюцца вельмі шпарка, то мы павінны ўлічваць, што новае пакаленне будзе выкарыстоўваць інтэрнэт як найбольш сучасны сродак перадачы інфармацыі. У нас ёсць праект па падрыхтоўцы электроннай энцыклапедыі «Рэспубліка Беларусь», якая неабходная перш за ўсё пакаленню, што нарадзілася ў суверэннай краіне, — гэта моладзь, якой вызначаць яе будучыню. Міністэрства інфармацыі падтрымлівае гэтую ідэю.

Але за пяць стагоддзяў, што прайшлі з часоў Скарыны, кніга не знікла. Прытым, што з'явілася радыё, тэлебачанне, носьбіты інфармацыі пастаянна абнаўляліся. Памятаю, бабуля ў вёсцы пыталася: «Унучак, а як людзі патрапілі ў тэлевізар?..» Многім магчымасцям сучасных тэхналогій старэйшае пакаленне таксама здзіўляецца, а моладзь гэтым натхняецца, мне здаецца, пакуль мы серфінгуем па інфармацыі, што ёсць у інтэрнэце. Але прыйдзе разуменне, што тэхналогіі трэба выкарыстоўваць з мэтай набыцця ведаў.

На мой погляд, і кніга захаваецца, бо гэта матэрыяльнае аблічча, якое набылі веды. Можа, кніга будзе ў іншым аздабленні, але захаваецца. Годнае месца ў гэтым шэрагу зойме і электронная кніга. Але яе таксама трэба рыхтаваць. У гэтым сэнсе задача энцыклапедыстаў — садзейнічаць імкненню людзей да Ведаў, да пазнавання краіны і свету наогул. Энцыклапедычная кніга (няважна: класічная ці электронная) павышае інтэлект, а інтэлектуальны чалавек лепей працуе, больш патрыятычны, больш дзяржаўны.

### ПАТРЫЯТЫЧНАЕ

— Задача нашага выдавецтва — быць носьбітам навукова дакладных ведаў, але мы яшчэ вызначылі і іншыя важныя прыярытэты. Заўважна, што ў нас мала цікавай літаратуры пра Беларусь, у тым ліку і пра сучасную. У нашых кнігарнях пераважаюць выданні расійскіх кнігадрукароў. Гэта добра, што праз кнігі іншых краін мы маем шырокае дачыненне да сусветнай гісторыі, культуры. Але мы павінны даць магчымасць нашым суайчыннікам, асабліва маладому пакаленню, якое нарадзілася ў суверэннай Беларусі, больш ведаць пра сваю краіну.

Напрыклад, зусім нядаўна ў нас з'явілася серыя «Беларуская дзіцячая энцыклапедыя», у якой выдаюцца кнігі для дзяцей, у прыватнасці «Крэпасці Беларусі», «Нацыянальныя паркі Беларусі», «Першыя людзі на зямлі Беларусі» і іншыя. Такія кнігі карыстаюцца папулярнасцю. Не менш папулярная і серыя «Энцыклапедыя для школьнікаў і студэнтаў». Летась у шэрагу іншых былі выдадзены «Гісторыя Беларусі», «Хімія. Біялогія». Чалавек вучыцца чытаць у першую чаргу ў сям'і. Будзе кніга цікавая ў бацькоў — будзе цяга для чытання і пазнавання ў дзяцей. Дзіця не навучыцца чытаць па камп'ютары, а па кнізе навучыцца. Па сваёй кнізе. Я бачу, як новае пакаленне цягнецца да беларускага, нацыянальнага: а што было і ёсць у тых, хто жыве на нашай зямлі? Мне, як чалавеку вясковаму, заўсёды было балюча, што адыходзіць тое, што ўмелі людзі рабіць рукамі. Памятаю, як у хатах стаялі кросны, бачыў, як самі людзі рабілі граблі, іншыя прылады. Паспрабуйце знайсці цяпер чалавека, які зараз зробіць кола з абадком… На гэтай зямлі не было выкапняў, і людзі сваімі ж рукамі стварaлі жыццё і яго каштоўнасці. Гэта важна паказаць і перадаць моладзі. Таму мы разам са «Студэнцкім этнаграфічным таварыствам» пачалі цікавы праект «Падарожжа ў краіну народнага мастацтва». Першае выданне пра беларускую вышыўку. Цікава ж паспрабаваць вышыць беларускі арнамент!..

Летась мы выдалі кнігу «Беларусь: краіна і людзі» (адзін выпуск быў на беларускай і англійскай мове, другі — на рускай і англійскай) накладам больш за 5000 асобнікаў — і ён ужо разышоўся. Лічу важным выданне «Беларускія народныя музычныя інструменты», якое мы стварылі ў супрацоўніцтве з «Беларускім фондам культуры». Выдатна ўспрынята наша сумеснае выданне з Нацыянальным мастацкім музеем «Мастацтва суверэннай Беларусі». У Год культуры мы завяршылі падрыхтоўку 6-томнага энцыклапедычнага выдання «Культура Беларусі».

### АСВЕТНАЕ

— Ужо летась пачалі сур'ёзна рыхтавацца да 500-годдзя беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Разам з Алесем Сушам, намеснікам дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, ажыццявілі дзіцячы праект, праз які распавялі пра нашага першадрукара. Кнігі ўжо разышліся. Яшчэ адно выданне пра Скарыну на рускай мове ажыццявілі з Пастаянным камітэтам Саюзнай дзяржавы. Нам важна, каб было разуменне, што насамрэч «Францыск Скарына — чалавек свету» (як падаецца ў назве кнігі).

Хацелася б, каб у серыі «Энцыклапедыя рарытэтаў» убачыла свет выданне «Кніжная спадчына Францыска Скарыны». Але складана ідзе падрыхтоўка ў арганізацыйным плане: вядома, што ў свеце захавалася больш за 520 кніг Скарыны, у асноўным за межамі, недзе тры чвэрці з іх знаходзяцца ў Расійскай Федэрацыі. А хацелася б паказаць усю спадчыну!.. Мяркуем, што выданне адбудзецца ўжо сёлета. Акрамя таго, рыхтуем персанальную энцыклапедыю «Францыск Скарына». Са Скарыны і Ефрасінні Полацкай мы пачынаем новую серыю «Асветнікі Беларусі», у якой адзначым нашых слынных суайчыннікаў, якія зрабілі значны ўнёсак у станаўленне і развіццё духоўнасці на нашай зямлі.

Летась, у лістападзе, ладзілася першая міжнародная Еўразійская кніжная выстаўка-кірмаш у Астане. Было тры намінацыі, у двух мы аказаліся ў пераможцах з кнігамі «Беларусь: краіна і людзі» і «Францыск Скарына — чалавек свету». У снежні Міністэрства інфармацыі ў чарговы раз ладзіла калядны дабрачынны кніжны баль. Сродкі ад продажу кніг на ім заўсёды пералічваюцца ў дзіцячыя дамы. На гэты раз яны былі накіраваны ў Шклоўскі дзіцячы дом-інтэрнат. З 17 кніжных лотаў 6 былі выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя». Па найбольшай цане былі прададзены, зноў жа, нашы кнігі, у прыватнасці «Беларусь алімпійская». Разам з Нацыянальным алімпійскім камітэтам мы падрыхтавалі і другое выданне «Беларусь спартыўная», у якім пазначылі ўсе спартыўныя аб'екты, дзе можна ўмацоўваць здароўе, праводзіць трэніроўкі і нашым суайчыннікам-спартсменам, і замежнікам, дзе можна праводзіць спартыўныя спаборніцтвы, — за гэтым таксама імідж краіны.

### ЭКАНАМІЧНАЕ

— Хачу адзначыць, што ўсе кнігі, якія паказваюць багацце нашай краіны, цудоўна разыходзяцца. І калі раней прадавалася на працягу года 30 працэнтаў выдадзеных кніг, а 70 працэнтаў заставалася, то цяпер мы павярнулі сітуацыю на нашу карысць роўна наадварот. Гэта добрая тэндэнцыя. З пункту гледжання эканомікі, друкаваная кніга цяпер нятанная, але 60 працэнтаў ад яе кошту складаюць друкарскія выдаткі, дадайце сюды падаткі, камунальныя і іншыя выдаткі... А выдавецтву ж трэба яшчэ і развівацца, укладваць грошы ў наступныя праекты. Пры гэтым мы павінны рыхтаваць не толькі цікавыя, карысныя кнігі, але і прэзентацыйныя, іміджавыя выданні сучасным аздабленнем.

Вядома, ёсць частка выданняў больш папулярных. Мы прыйшлі да таго, што можам зрабіць шмат серый, пачынаючы ад дашкольнага ўзросту. Выдалі летась дзве кнігі для садкоў у серыі «Мая краіна — Беларусь»: «Азбука сімвалаў краіны» і «Падарожжа па роднай краіне». Кожны грамадзянін — маленькі і дарослы — павінен ведаць усё пра сваю краіну. А цікавасць да яе ў нашых людзей цяпер вялікая. Я зразумеў гэта, калі маніторыў, што чытаюць, што шукаюць людзі. Пра нашы кнігі мала ведаюць. Часам ідзе інфармацыя пра нашу кнігу, але не пазначаецца, якое выдавецтва яе падрыхтавала. Праўда, спрацоўвае яшчэ тое, што называецца «сарафанным радыё», пра кнігу даведваюцца таксама праз сацыяльныя сеткі. Важна, каб была інфармацыя пра нашы выданні: энцыклапедычная кніга не зусім для рознічнага продажу. Напрыклад, «Гарады і вёскі Беларусі» — пашпарт кожнага населенага пункта нашай краіны, нават тых, якія ўжо зніклі. Я бачыў, што гэтым цікавяцца. На выстаўцы маладыя людзі гарталі, знаходзілі назву: «О, гэта ж вёска маёй бабулі!..» Куплялі, хоць гэта і нятанна. Важна трапіць у тое, што патрэбна людзям. А кнігі, якія распавядаюць пра Беларусь, яшчэ і добра прадаюцца.

### ЮБІЛЕЙНАЕ

— Нам важна выкарыстаць юбілей для папулярызацыі і прасоўвання энцыклапедычнай кнігі, адначасова са стварэннем электроннай энцыклапедыі. Запланавалі некалькі навукова-практычных канферэнцый: павінны выкарыстаць наш юбілей для асэнсавання той сітуацыі, якая ўтварылася на нашым кніжным рынку, у кнігавыдавецкай справе, каб шукаць шляхі дзеяння. І ставім перад сабой задачы на 200 працэнтаў, калі 100 з іх ажыццявіцца, ужо добра. Наш юбілейны імпэт можа цягнуцца некалькі гадоў, таму што ў студзені 1967-га было прынята рашэнне аб стварэнні Галоўнай рэдакцыі Беларускай савецкай энцыклапедыі, на глебе чаго пазней утварылася выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», а першы том энцыклапедыі ўбачыў свет у 1969 годзе.

Энцыклапедычная літаратура не рыхтуецца за месяц ці два, над выданнем працуе шмат людзей. Вакол калектыву выдавецтва ў колькасці 39 чалавек збіраецца ўся навуковая грамадскасць, прафесіяналы ў розных сферах. Напрыклад, у падрыхтоўцы 6-томнага выдання «Культура Беларусі» ўдзельнічала каля 1000 чалавек: навукоўцы, мастацтвазнаўцы, эксперты, якія падрыхтавалі больш за 12 тысяч артыкулаў.

Не магу не ўзгадаць яшчэ адзін значны праект, да якога мы мелі дачыненне: выданне, падрыхтаванае навукоўцамі і ўрачамі-практыкамі РНПЦ анкалогіі імя Аляксандрава. Тры кнігі — выдатная навуковая праца, роўнай якой няма на тэрыторыі СНД.

Наша краіна мае моцны навуковы патэнцыял у розных галінах. Таму зараз у працуем над перспектыўным планам да 2025 года. Бачым пакрокава развіццё энцыклапедычнага выдавецтва з улікам новых інфармацыйных тэхналогій.

**Размаўляла Ларыса ЦІМОШЫК**

# Пра смелага падарожніка і адкрывальніка Шубуршуна

**Думаю, шмат хто з юных беларускіх чытачоў ужо даўно ведае і любіць незвычайнага персанажа кніг Алеся Карлюкевіча — Шубуршуна. Гэта адважны падарожнік, створаны фантазіяй пісьменніка, які пераадольвае шматлікія цяжкасці, што ўзнікаюць падчас яго незвычайнай вандроўкі па беларускіх рэках. Шубуршун не толькі смелы і мужны, але і цікаўны, дасціпны, назіральны, мудры. Хочацца, каб і дзеці, чытаючы казкі пра гэтага героя, набывалі, выхоўвалі ў сабе такія важныя якасці. З Шубуршуном знаёмяць кнігі, што выйшлі ў 2014 годзе ў Выдавецкім доме «Звязда», — «Прыгоды Шубуршуна» і «Новыя прыгоды Шубуршуна». Нарэшце з'явіўся працяг неверагодна цікавых гісторый пра падарожжа гэтага героя. Нядаўна пабачыла свет новая кніга — «Як Шубуршун мурашоў-чужынцаў выратаваў». У цвёрдай вокладцы сабраны ўсе казкі пра смелага падарожніка і адкрывальніка. Аўтар казачнай аповесці пра Шубуршуна Алесь Карлюкевіч дзеліцца з чытачамі сваімі развагамі, думкамі, планамі на будучыню.**

**— Звычайна ў пісьменнікаў пытаюць пра іх першы твор. Як ён з'явіўся на свет у вас, у якім жанры?**

— Тут гісторыя такая... Для часопіса «Качели» і газеты «Раніца» я пачаў гадоў дваццаць таму пісаць гістарычныя нарысы з разлікам на дзіцячую аўдыторыю. А пасля, недзе гадоў з дзесяць таму, напісаў гістарычнае апавяданне, прысвечанае Станіславу Манюшку. Нават не называў у творы яго імя, але паспрабаваў апісаць, як развіваўся ў дзяцінстве талент кампазітара, адкуль былі яго вытокі, як услухоўваўся ён у народную песню. Тое апавяданне надрукавала «Вясёлка». А следам пачаў пісаць казкі, заснаваныя на фальклорным, гісторыка-краязнаўчым матэрыяле.

**— Як так атрымалася, што вашы творы для дзяцей наскрозь прасякнуты матывамі краязнаўства? Відаць, дзякуючы вашаму захапленню гэтай навукай?**

— Перш чым прыйсці да дзіцячай літаратуры, я шмат працаваў у краязнаўстве. Найперш збіраў матэрыялы па гісторыі роднай Пухавіччыны. У выніку з'явіліся розныя кнігі: «За Цітаўкаю — Слабада», «Сцежкамі Ігуменшчыны», «Ігуменскі блакнот», «Блонь», «І векавечны толькі край»... Але стараючыся ў краязнаўчай публіцыстыцы следаваць фактам, быць дакладным у перадачы падзей, я пастаянна адчуваў неабходнасць нешта яшчэ дадаць, нешта сказаць. Хтосьці, пэўна, з краязнаўства ішоў і ідзе ў мастацкую прозу, пачынае пісаць раманы, становіцца гістарычным пісьменнікам. Запал, натхненне, жаданне данесці да чытача пэўныя думкі, пэўныя ісціны вывелі мяне на дзіцячую літаратуру, казкі.

**— Ведаю, што вашы казкі перакладаліся на іншыя мовы свету і выдаваліся за мяжой...**

— Так, пэўна, склалася яшчэ і таму, што я і сам шмат падарожнічаю па свеце. У апошнія гады шмат разоў наведваў розныя краіны Цэнтральнай Азіі — Туркменістан, Таджыкістан, Казахстан, Кыргызстан. Яшчэ раней пабываў ва Узбекістане. А летась двойчы вандроўныя клопаты прыводзілі мяне ў Кітай. З задавальненнем наведваюся ў Літву. Быў у Германіі, Сербіі, Чарнагорыі, Азербайджане, Італіі, Швецыі... Мне цікава адкрываць розныя старонкі, кантактаваць з пісьменнікамі іншых краін. Несумненна, усё гэта спрыяла знаёмствам... Як вынік такіх паездак нарадзіліся кнігі пра літаратурныя сувязі: «Братэрства», «Літаратурнае пабрацімства: Беларусь — Туркменістан», нядаўна завяршыў працу над кнігай дарожных нарысаў, гутарак «Свята сяброўства»... Калі ездзіш і адкрываеш новае — цікавяцца і тваім плёнам, пытаюць, а што ты зрабіў... Так, адна за другой былі перакладзены і выдадзены мае кнігі, адрасаваныя юнаму чытачу, — у Азербайджане, Таджыкістане, Арменіі, Літве, Украіне, Чарнагорыі, Расіі...




**— Серыя казак пра Шубуршуна атрымала шырокую папулярнасць. Шубуршун палюбіўся многім маленькім чытачам. Як узнікла ідэя такога персанажа?**

— Шубуршуна мы прыдумалі неяк разам з маёй дачушкай Веранікай. Яна нават напісала пра яго ў дзіцячую газету. А пасля пра героя забыліся.

Прайшоў час, я якраз хварэў і доўга ляжаў у бальніцы, затым у цэнтры рэабілітацыі. Неспадзявана напісаў цыкл кароткіх казак пра маленькага Шубуршуна, які без настрою пакідае гарадскую кватэру, сыходзіць у далёкі свет ад сваёй сяброўкі Веранікі. І вось ужо больш як чатыры гады час ад часу саджуся за пісьмовы стол і расказваю пра вандроўкі Шубуршуна. З гэтых памкненняў атрымаліся «Прыгоды Шубуршуна» і «Новыя прыгоды Шубуршуна». І вось-вось, літаральна на днях, выйшла кніга, якая аб'ядноўвае дзве папярэднія і выкладае яшчэ і новыя гісторыі пра вандроўніка па свеце.

**— Адкрыйце, калі ласка, сакрэт, ці будзе працяг казак? Куды, у якія далёкія ці блізкія куткі свету адправіцца ў падарожжа ваш персанаж? Ці сустрэнецца з Веранікай?**

— Ці будзе працяг... Ужо недзе з паўтара года — мо таму, што чакаў, каб хутчэй з'явілася кніга з напісаным раней, — не напісалася ніводнага новага раздзела, ніводнай новай казкі пра Шубуршуна. Крыху хвалююся з-за гэтага. Хаця планаў у дачыненні любімага героя шмат. Ёсць спробы, накіды, частачкі раздзелаў працягу аповесці-казкі. У іх — і перажыванні Шубуршуна за Вераніку: як яна там, што новага адбылося ў яе жыцці?.. А што да краін, якія павінен наведаць Шубуршун, дык гэта Усход — Індыя, Кітай, мо нават Японія... А ўсё таму, што і сам я вельмі цікаўлюся ўсходазнаўствам. Хаця адкрыю сакрэт. У лёсе Шубуршуна галоўнае — радзіма, родны кут. Галоўная яго сустрэча, якая павінна ўсё ж адбыцца, — гэта сустрэча з роднай рачулкай Балачанкай, родным лесам, роднымі ляснымі сцежкамі, адкуль ён некаторы час таму паехаў дзякуючы Веранiцы ў горад. Матывы роднага дома, патрыятычнае ўсведамленне сваёй прысутнасці ў жыцці — ці не гэта павінна быць для нас самым галоўным?..

**Вольга АЛЯКСЕЕВА**

# Кулага — для выкшталцоных дзяўчат!

**Жаданне паспрабаваць свае сілы ў літаратуры часта наведвае таленавітых школьнікаў. Напрыклад, кніга «У гасцях у Францыска Скарыны» — плён працы шасці аўтараў — Алены і Вікторыі, Надзеі, Эміліі, Марыі і Маргарыты Стэльмах-Навумавых, аб'яднаных псеўданімам Ева Нэмм. Калі меркаваць па фотаздымку, дзве аўтаркі з гэтай сямейнай суполкі — дакладна вучаніцы сярэдняй школы.**




«Вясёлыя дзяўчаты рознага ўзросту захоплены таямнічым і загадкавым. Асаблівую цікавасць у іх выклікала гісторыя Беларусі, яе легенды, што стала асновай для стварэння серыі "Кніга Чараўніцтва"», так тлумачыцца задума. Мілыя ілюстрацыі, выйгрышная назва, абяцанне неверагодных цудаў — і вось чытач трапляе ва ўтульны сучасны палац, дзе пануюць добразычлівасць і таварыскасць. Галоўныя героі — разумны і рызыкоўны граф Эмерык, смяшлівыя сяброўкі Альжбэта і Яіцка, вясёлы гузік Юзік ды кактус Пундзік.

Вартая ўвагі ідэя твора — стварыць звыклы для сучасных дзяцей свет і нібы між іншым нагадаць пра беларускую культуру — асобнымі слоўцамі, кароткімі згадкамі пра гістарычныя рэаліі і вядомых асобаў. Напрыклад, на сняданак Альжбэта п'е з філіжанкі беларускі кісель-кулагу, а закаханы ў дзяўчынку садоўнік мае мянушку Аловак — адпаведна форме яго ўлюбёнага капелюша.

Карысны бонус — пяць старонак з цікавымі заданнямі ды пазнавальная інфармацыя па гісторыі, культуры, заалогіі. Шкада толькі, што многія эпізоды «выпадаюць» з сюжэта, учынкі герояў часам падаюцца недарэчнымі, а дзівосы адбываюцца надта проста, нібы яны зададзены казачнай традыцыяй і няма нічога дзіўнага ў тым, каб патрапіць у XVI стагоддзе ці знайсці чароўны куфэрак. Да таго ж на пачатку казкі сустракаецца зашмат літаратурных штампаў, якія зусім не ўпрыгожваюць твор.

Вядома, гісторыя, напісаная ў суаўтарстве дарослымі і дзецьмі, не павінна быць узорам прафесійнай літаратуры. Але калі б тэкст гэтай прыгожай і пазнавальнай кнігі быў крыху лепшым, выданне атрымалася б цудоўным!

**Юлія ШПАКОВА**

*Нататкі чытача*

# Думкі пасля прачытання

**Часта вяртаюся да многіх старонак з кнігі Віктара Шніпа «Пугачоўскі цырульнік». І кожны раз атрымліваю задавальненне. Бо ад тэкстаў вее дабрынёй, цеплынёй чалавечых стасункаў, адчуваецца чулае сэрца, светлая душа аўтара. І ўспамінаюцца словы мітрапаліта Піцірыма: «Падобна таму, як азонавы слой засцерагае Зямлю ад жорсткіх касмічных промняў, так і маральнасць абараняе род людскі ад гібелі, гарантуе ім будучыню».**

У адным са сваіх запісаў пісьменнік адзначае: «У апавяданне, у аповесць, у раман можна ўставіць верш гэтак жа, як у ружжо — патрон. Як нельга ўставіць ружжо ў патрон, так і ў верш нельга ўставіць ні раман, ні аповесць, ні апавяданне. І проза з вершам — гэта як кроў з малаком...»

А мне хочацца дадаць: «І гэта выдатна, бо многія чытачы, якія рэдка калі чытаюць вершы, аддаюць перавагу прозе, пры чытанні такіх празаічных твораў, пра якія гаворыць Віктар Шніп, таксама змогуць адчуць "кроў з малаком", дакрануцца душой да паэзіі. Важна толькі, каб яна была сапраўднай...».

Яшчэ хочацца падкрэсліць вось што: у вышэйназванай кнізе, як і ва ўсіх творах гэтага паэта і празаіка, словам цесна, а думкам — прасторна. І яны прымушаюць чытача таксама думаць. А ці не гэта галоўная задача пісьменніка?

**Міхась СЛІВА**

# Мастацтва як уласнае жыццё

## Невядомыя творы Уладзіміра Акулава прадстаўленыя ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў

«Здабыццё легенды» — так называецца новая выстаўка мастака, прадстаўніка другой хвалі беларускага авангарду Уладзіміра Акулава. У экспазіцыі ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў (вул. Някрасава, 3) прадстаўлены работы, створаныя аўтарам за трыццаць год творчай дзейнасці, многія з якіх дагэтуль не выстаўляліся.

Уладзімір Акулаў на працягу многіх гадоў застаецца загадкавай асобай: творцу зрэдку асабіста можна ўбачыць на публіцы, творы практычна ніколі сам не прэзентуе, шмат працуе і пазбягае вялікай увагі да сябе як чалавека. Яму важна, каб бачылі мастацтва. Гэтым разам госці выстаўкі, зыходзячы з назвы мастацкага праекта, былі ўпэўненыя: майстар сам адкрые экспазіцыю. Памыліліся. Прэзентаваў выстаўку сябар, прыхільнік творчасці і, як кажуць, менеджар Уладзіміра Іванавіча Яўген Ксяневіч, які займаецца вывучэннем і папулярызацыяй творчасці авангардыста.



*«Ускраіна Віцебска», 1991 г.*

«Я рады, што час Акулава прыйшоў», — адзначыў на адкрыцці Яўген Ксяневіч. Толькі за апошні год мастацтвазнаўца здолеў арганізаваць шэсць персанальных выставак майстра, кожная з якіх з розных бакоў характарызуе асобу Уладзіміра Акулава.



*«Рэлігійны сюжэт».*

— Праз творчасць Уладзіміра Акулава, безумоўна, можна прасачыць яго стаўленне да мастацтва і жыцця, — расказаў Яўген Ксяневіч. — Мастацтва і ўласнае жыццё ён не падзяляе, і ўсё яго існаванне адлюстраванае ў творчасці. Нейкага іншага жыцця, у тым ліку бытавога, сямейнага, за межамі мастацтва ў яго проста няма. Легендарнасць Уладзіміра Акулава выяўляецца ў мастацкай моцы таго, што ён напісаў. Яго творы вельмі маляўнічыя, пераканаўчыя, пазнавальныя. Надоўга запамінаюцца. Акулава немагчыма з кімсьці зблытаць, ён упэўнена ідзе ўласным шляхам, выпрацаваў асаблівы мастацкі стыль. Уладзімір Іванавіч з удзячнасцю ставіцца да мастацтва, служыць яму. Яго не хвалююць узнагароды, званні і любыя іншыя знешнія праявы поспеху, а па-сапраўднаму турбуе толькі рэалізацыя творчых задач. Яму важна паспець зрабіць тое, што ён задумаў і запланаваў у жыцці як творца. І важна жыць у згодзе са светам, самім сабой і творчасцю.

Уладзімір Акулаў — чалавек-энергія. Ён жыве ў своеасаблівай адасобленасці ад знешняга свету, ад так званай творчай тусоўкі, не імкнецца піярыць сябе і атрымліваць толькі станоўчыя водгукі. Каштоўней для мастака — свабода ад усялякіх фармальных рэчаў і з'яў. Яму цікава вывучаць: спакойна разважаць над рознымі працэсамі — рэлігійнымі, гістарычнымі, сацыяльнымі. Выстаўка «Здабыццё легенды» дэманструе неверагодна вялікую колькасць твораў, якія не звязаныя ні тэматыкай, ні часавымі перыядамі. Спачатку заўважаеш работу «Футбаліст», а потым побач з ім — рэлігійны сюжэт. І так цягам усіх чатырох выставачных заляў.

Аўтар сфарміраваўся ў творчасці на каштоўнасцях мастацкай школы, якія былі закладзены Казімірам Малевічам, Маркам Шагалам, Верай Ярмолавай, Элем Лісіцкім… Уладзімір Акулаў лічыць і пазіцыянуе сябе прадаўжальнікам гэтых традыцый. На адкрыцці праекта Наталля Шаранговіч адзначыла, што мастакі другой хвалі авангарду адрозніваліся тым, што ведалі, як выглядае добры жывапіс, разумелі, што ў мастацтве ёсць колер і эмоцыя, і сваёй, магчыма, не для ўсіх даступнай мовай перадавалі яе людзям. Уладзімір Акулаў працуе гэтак жа: яго колеравая палітра змяшаная з унутранымі перажываннямі, ён раскрывае пачуцці, правакуе гледача на разважанне і ацэнку сюжэта.

— Уладзіміра Акулава характарызуюць аскетызм, вялікая працавітасць, а любы талент можна рэалізаваць толькі велізарнай працай, — адзначае Яўген Ксяневіч. — Ён адукаваны і начытаны, з шырокім літаратурным і філасофскім кругаглядам. Таму ў яго так шмат розных глыбокіх тэм і сюжэтаў. Акрамя жывапісу, ён актыўна займаецца графікай, паэзіяй. Як куратар выставак і мастацтвазнаўца, больш за 30 гадоў займаюся сучасным беларускім мастацтвам і працую з творчасцю мастака. Сустрэча з Уладзімірам Акулавым — вялікі поспех майго куратарскага жыцця. Я лічу майстра велічынёй сусветнага ўзроўню. Думаю, што хутка Беларусь будзе ганарыцца Акулавым, як ганарыцца сёння Маркам Шагалам і Хаімам Суціным.

Энергетычны запал мастака адчуваецца ў творах: ёсць пэўнае напружанне, якое не дазваляе быць разняволеным і абыякавым да мастацтва. Яно матывуе аналізаваць, параўноўваць перыяды. На творчым шляху Уладзімір Акулаў не спыняецца — шукае новыя тэмы, якія б змаглі зачапіць актуальнасцю, глыбінёй і нават вечнасцю. Напрыклад, рэлігійныя сюжэты, матывы заўсёды кранали, былі блізкімі мастаку. І адгукаюцца ў душах многіх гледачоў.

Уладзімір Акулаў — вядомы аўтар у айчыннай мастацкай прасторы, але ў яго яшчэ не было ніводнай выстаўкі ў Нацыянальным мастацкім музеі, а, між іншым, за ўсю творчую дзейнасць ён напісаў больш як тысячу твораў. Як адзначае мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн, творы Уладзіміра Акулава арганічна прыжыліся б у Францыі, былі б там запатрабаванымі. А ў нашай краіне, на жаль, існуюць пытанні з прыняццем і набыццём авангардных твораў.

Увесь час пра Уладзіміра Акулава хадзілі розныя чуткі, асабліва калі ён выпадаў з творчага асяроддзя на некалькі гадоў. Яго называлі нелюдзімым, прыпісвалі шмат непраўдзівых гісторый. Але ж кожны раз мастак нечакана вяртаўся ў мастацкую суполку з грандыёзнымі, маштабнымі праектамі: не заўсёды арганізоўваў іх сам, але ўсё роўна заставаўся на слыху. Ён сапраўды чалавек-легенда, пра якога хацелася б ведаць больш, а атрымліваецца ведаць столькі, колькі ён дазваляе.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Патрэбныя героі?

## Адлюстраванне тэмы ў скульптурах Канстанціна Селіханава

**Скульптурныя кампазіцыі беларускага мастака Канстанціна Селіханава нікога не пакідаюць абыякавым. Калі глядзіш на іх, з'яўляецца шэраг асацыяцый і думак, якія паступова падводзяць да дыялогу з аўтарам. У студзені ў мастацкай галерэі «*DK*» дэманструецца персанальная выстаўка скульптара «Некалькі гераічных эцюдаў».**

Асноўная канцэпцыя экспазіцыі — прадставіць моц і ў той жа час прыгажосць чалавечага цела. Канстанцін Селіханаў далікатна акцэнтуе ўвагу на магчымасцях чалавека, якія могуць быць бязмежнымі, унікальнымі. Чалавек для яго — вяршыня альбо герой, які абавязкова павінен жыць з сабой у гармоніі і спакоі.

Галоўная частка цела, на якой скульптар акцэнтуе ўвагу, — мужчынскі торс. Менавіта па ім можна зразумець, наколькі мужны чалавек, наколькі ён падрыхтаваны фізічна. Канстанцін Селіханаў упершыню стварыў мужчынскі торс у 1990 годзе на аснове Бельведэрскага торса, арыгінал якога знаходзіцца ў музеі Пія-Клеманціна ў Ватыкане. Для мастака гэта быў час пошуку і магчымасцей, менавіта тады тэматыка сілы, уладарнасці чалавека над светам і самім сабой прываяла скульптара ў захапленне, тады з'явілася жаданне захаваць гэтую эстэтыку ў творчасці. Як адзначае сам аўтар, торс — метафара свету, які амаль страчаны, спроба яго затрымаць, узнавіць, вярнуць да адзінства. З аднаго боку, мастак паказвае прыгожае бронзавае цела, з другога — дае адчуць, што нават самы жорсткі і візуальна халодны чалавек унутры хавае цяпло.

Аўтар актыўна развівае тэму гераізму, сцвярджае, што яна будзе актуальнай заўсёды: кожнаму народу патрэбныя героі, якіх будуць час ад часу ўсхваляць, пасля вінаваціць. Гэта своеасаблівы колазварот, падмацаваны законамі жыцця. Канстанцін Селіханаў паказвае: у кожнага асяроддзя свае героі, праз гэта раскрывае сутнасць існавання чалавека, нацыі. Аўтар дастаткова часта супрацьпастаўляе мінулае і сучаснасць, параўноўвае каштоўнасці, тым самым даказвае, што істотна нічога не змяняецца: чалавеку заўсёды будуць патрэбныя паветра, вада і ежа. Усё астатняе выхоўваецца, набываецца часам.

«Некалькі гераічных эцюдаў» — выстаўка, якая чапляе і ідэяй, і прыгажосцю твораў. Многія работы ствараліся на працягу некалькі год, а значыць, дакладна прадумваліся. Канстанцін Селіханаў у мастацтве філосаф: яго кампазіцыі заўсёды глыбокія па сэнсе і задуме.

**Вікторыя АСКЕРА**



*«Торс», 2007 — 2010 гг.*

# Беларуска «Джэйн Эйр»

У Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры (БДАМТ) з аншлагам прайшла прэм'ера мюзікла «Джэйн Эйр», першай музычнай версіі рамана Шарлоты Брантэ ў Еўропе. Зрабіла спектакль правераная часам каманда пастаноўшчыкаў у складзе заслужаных дзеячаў мастацтваў Расійскай Федэрацыі Кіма Брэйтбурга і Мікалая Андросава, члена Саюза пісьменнікаў Расіі Карэна Кавалерана і музычнага кіраўніка Валерыі Брэйтбург. Разам яны стварылі больш за дзясятак тэатральных пастановак, у тым ліку і на сцэне нашага музычнага тэатра. «Джэйн Эйр» — ужо другі сумесны праект-мюзікл з БДАМТ. Да гэтага быў легендарны хіт «Блакітная камея».

Хтосьці, напэўна, успомніць спектакль з аналагічнай назвай у тэатры «Маскоўскай аперэты» і захоча параўнаць беларускую «Джэйн» з замежнай. На расійскай сцэне таксама гучаць лібрэта Карэна Кавалерана і музыка Кіма Брэйтбурга. Але, па сцвярджэнні самога кампазітара і прадзюсара мюзікла, на самай справе адрозненняў больш чым дастаткова. Кім Аляксандравіч запэўніў, што мінскі глядач зможа атрымаць асалоду ад арыгінальнай версіі спектакля, якая больш падыходзіць пад аўтарскую задуму.



Фота Марыі Калядзь.

Знаёмства Джэйн з вар'яткай Бертай.

Чаму? Перш за ўсё, таму што гэта розная каманда пастаноўшчыкаў, пачынаючы з рэжысёра і заканчваючы мастакамі па святле і касцюмах. У кожнага творцы сваё прачытанне, кожны ўносіць у сюжэт якую-небудзь дэталь ад сябе. Важна заўважыць, што мюзікл — не пераказ рамана, ён створаны па яго матывах. У ім вы не сустрэнеце некаторых герояў, іншыя аб'ядноўваюць рысы некалькіх персанажаў, а трэція і наогул змянілі пол.

«У Маскве зрабілі памылку і не ўказалі на афішы словы "па матывах", таму гледачы чакалі паўтор рамана, — распавёў Кім Брэйтбург. — Але, па-першае, ён вельмі аб'ёмны, каб змясціць яго ў дзве гадзіны прадстаўлення. Па-другое, мы арыентуемся перш за ўсё на гледача, таму зрабілі мэйнстрым і дадалі камедыйны складнік у паводзіны сямейства Рыдаў».

Начытанаму гледачу можа падацца, што гісторыя месцамі нагадвае «Папялушку», а каму-небудзь і наогул прыйдзе ў галаву казка «Прыгажуня і пачвара». Але стваральнікі паспяшаліся пераканаць у адваротным. Сярод персанажаў сапраўды ёсць цёця Джэйн — місіс Рыд — і яе дзве родныя дачкі, адну з якіх яна хоча выдаць замуж за Эдварда Рочэстэра. А сама Джэйн — сірата. На гэтым падабенства з казкай заканчваецца.

Варта асабліва вылучыць працу Карэна Кавалерана: ён напісаў лібрэта цалкам у вершах. Суаўтарам ідэі лібрэта выступіла Алена Язерская, член Саюза тэатральных дзеячаў Расіі. Арыгінальны тэкст — гэта прынцыповая пазіцыя аўтараў, каб не закрануць чужыя пераклады і стварыць свой варыянт трактоўкі. Для некаторых сцэн, якія не ўвайшлі ў маскоўскую версію мюзікла (напрыклад, маналог Рочэстэра ў царкве) адмыслова для Мінска быў дапісаны тэкст. Шырокай публіцы паэт-песеннік Карэн Артавазддавіч можа быць вядомы па Міжнародным конкурсе песні «Еўрабачанне»: у якасці аўтара ён восем разоў удзельнічаў у фінале, прадстаўляючы пяць краін — да мінулага года абсалютны рэкорд у гісторыі конкурсу. Тройчы выканаўцы яго песень падымаліся на музычны п'едэстал, займаючы ганаровыя месцы (Дзіма Білан, Ані Лорак і Злата Огневіч).

Мікалай Андросаў як рэжысёр надаў асаблівую ўвагу любоўнай лініі галоўных персанажаў, прымушаючы гледачоў успрыняць яе больш тонка. Ён імкнуўся зрабіць акцэнт таксама на развіцці стасункаў герояў з другараднымі дзеючымі асобамі. Дзякуючы адноўленай аўтэнтычнай абстаноўцы і гатычнаму стылю агульнай карціны адчуваецца блізкасць да англійскай літаратуры эпохі рамантызму і рэалізму, чыёй прадстаўніцай і з'яўляецца Шарлота Брантэ.

Мастаком-пастаноўшчыкам выступіла таксама запрошаная расіянка Кацярына Крукава (Ніжні Ноўгарад), якая ўжо мела досвед у стварэнні спектакляў «Аладзін», «Раман даўжынёю ў жыццё», «Бэмбі» і мюзіклаў «Кот у ботах» і «Пунсовенькая кветачка». Яна распавяла, што для перадачы атмасферы Англіі XIX стагоддзя былі пашытыя 156 касцюмаў і для ўпрыгожвання сцэны выкарыстаны дзве тысячы жывых лілей. У прыватнасці, на касцюмы для галоўных персанажаў пайшло парадку пяцідзесяці метраў тканіны.

Дырыжор-пастаноўшчык Мікалай Макарэвіч ужо ставіў у родным тэатры такія спектаклі, як «Бабій бунт», «Прыгоды брэменскіх музыкаў», «Бурацiна.by», «Баль у Савоі», «Вяселле ў Малінаўцы», якія і зараз ідуць на сцэне. Праца над «Джэйн Эйр» — гэта яго першы досвед супрацоўніцтва з сямейнай парай Брэйтбургаў. Яму спадабалася партытура. Таксама маэстра адзначыў добрую інструментоўку і ў музычным суправаджэнні асабліва вылучыў партыю габоя.

Хормайстар-пастаноўшчык Святлана Пятрова, якая шмат гадоў працуе ў тэатры, лічыць, што ў гэтым мюзікле няма безаблічнага натоўпу і кожны артыст хору мае сваю ролю. Такая праца стала і для яе, і для вакалістаў і артыстаў хору добрым майстар-класам.

Сярод салістаў ёсць нечаканасці: у адным са складаў папулярнай спявачцы Ірыне Дарафеевай дасталася роля місіс Фэйрфакс, бо гэта партыя бліжэй да эстраднага выканання, чым да акадэмічнага. Акрамя запісу музычных альбомаў, гэта ўжо не першы досвед супрацоўніцтва спявачкі з прадзюсарам Брэйтбургам, рэжысёрам Андросавым і супервайзерам Брэйтбург: некаторы час яна грала галоўную ролю ў «Блакітнай камеі», а ўсяго за месяц да «Джэйн Эйр» у Мінску прайшла яшчэ адна прэм'ера — «Казанова» — з удзелам гэтага творчага квартэта. Спектакль унікальны тым, што ў ім граюць практычна адны студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, дзе выкладае выканаўца. Там Ірына Дарафеева выступіла не ў ролі артысткі, а як мастацкі кіраўнік праекта.

На гэтым сюрпрызы не заканчваюцца. Першай у галоўнай ролі на сцэну выйшла дэбютантка, яшчэ студэнтка Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Алена Бабук. Яе адабралі па кастынгу. Музычны кіраўнік Валерыя Брэйтбург падкрэсліла, што дзяўчына — своеасаблівае адкрыццё не толькі для пастановачнай групы, але і для сцэны ў цэлым, новая перспектыўная артыстка, якая з поспехам можа працаваць у розных пастаноўках такога складанага шматграннага музычна-сцэнічнага напрамку, як мюзікл. Сама Алена пра сваю гераіню выказваецца так: «Джэйн — моцная дзяўчына, якая здолела прайсці праз мноства выпрабаванняў, што выпалі на яе долю. Складаней за ўсё ў працы над роляй было перадаць яе багаты ўнутраны свет. Гэтая гісторыя запала ў душу, таму я веру ў справядлівасць і любоў. У ВНУ я вучуся акадэмічнаму вакалу, але мне не хапала эмацыйнай перадачы. Таму я асабліва рада, што трапіла ў гэты творчы калектыў і змагла так раскрыцца!». У іншым складзе роля Джэйн дасталася дасведчанай Кацярыне Мураватай.



Дуэт місіс Фэйрфакс і Роберта.

Ролю Адэль, маленькай выхаванкі гаспадара маёнтка, выконваюць дзве таленавітыя дзяўчынкі: Шанталь Бунятава, стыпендыят Міжнароднага дабрачыннага фонду Юрыя Розума, і Арына Хлус, выхаванка Акадэміі мюзікла «РЭВЮ». У абедзвюх выканальніц у рэпертуары тэатра ўжо ёсць роля па мюзікле: Шанталь грае дзіця ў «Чырвонай шапачцы. Пакаленне *NEXT*», а Арына — трубадура-малодшага ў «Прыгодах брэменскіх музыкаў». Для абедзвюх артыстак гэта першая вялікая роля ў тэатры.

Мастацкі кіраўнік тэатра і заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь Адам Мурзіч ад імя тэатра выказаў шчырую ўдзячнасць камандзе пастаноўшчыкаў: «"Блакітная камея" стала падарункам для нас. Яна ідзе на працягу ўжо пяці гадоў і да гэтага часу корміць наш тэатр. Па заканчэнні кантракта з Кімам Аляксандравічам было прынята рашэнне працягнуць яе рэпертуарнае жыццё яшчэ на некалькі гадоў. Чакаем, што "Джэйн Эйр" стане такім жа хітом». Думаецца, так і будзе: на ўсе прэм'ерныя паказы білеты разляцеліся як гарачыя піражкі. Кажуць, што на месяц наперад іх дастаць ужо складана.

**Шура ГРАМЫКА**

# З КАРАБЛЯ НА БАЛЬ

Ідзе студзень, і галоўныя зімовыя святы ператвараюцца ў прыемныя ўспаміны. Новы год, Раство, Каляды — што ж застаецца тым, хто яшчэ не хоча прыпыняцца ў будзённасці? Прыгожая музыка, зграбныя танцы, галантныя кавалеры, вытанчаныя дамы, вясёлая супольнасць прафесійных артыстаў і насычаная праграма! Усё гэта — традыцыйны Вялікі навагодні баль у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры Беларусі.

Добрай традыцыяй стала сустрэча старога Новага года ў творчай атмасферы Вялікага тэатра: сёлета імпрэза ладзіцца ў восьмы раз. Баль доўжыцца толькі адну ноч — з 13 на 14 студзеня, — але на яго падрыхтоўку скіраваны лепшыя творчыя сілы тэатральнага актыву. Балетмайстар-пастаноўшчык — заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Юлія Дзятко, рэжысёры імпрэзы — уладальнік медаля Францыска Скарыны Галіна Галкоўская, Алена Медзякова, Дар'я Пататурка. Музычная частка складаецца з канцэрта «Класіка *New*» у суправаджэнні сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам маэстра Андрэя Галанава, а музыку да Рускага і Венскага баляў выканае аркестр тэатра пад кіраўніцтвам дырыжораў Івана Касцяхіна і Алега Лесуна. У Камернай зале можна будзе паслухаць рамансы артыстаў Вялікага, прысутнічаць на своеасаблівым спаборніцтве «Тэнары супраць басоў», праспяваць навагоднія песні разам з удзельнікамі «Блакітнага агеньчыка». Без справы не застанецца нават фае: там адбудзецца канцэрт музыкі Горана Брэгавіча.

Некалькі месяцаў звычайныя наведвальнікі Вялікага тэатра рыхтаваліся да святочнай ночы, каб не проста паглядзець на імпрэзу, але і стаць яе паўнавартаснымі ўдзельнікамі. Дэбютанты спраўна хадзілі на заняткі з прафесіяналамі, каб навучыцца танцаваць вальс, паланэз ды контрданс не горш за прадстаўнікоў былых эпох. Нельга сапсаваць ніводнага руху: на Пушкінскім балі поруч з сучаснымі парамі будуць вальсіраваць героі вялікага паэта — Анегін і Таццяна, Ленскі і Вольга… Пасля дэбютантаў танцавальную прастору зоймуць спрактыкаваныя карыфеі. Яны прадэманструюць гледачам больш складаную праграму.

Атмасферу балю XIX стагоддзя стварае і адпаведны дрэс-код, якога павінны прытрымлівацца ўсе госці. Для жанчын гэта бальная або вячэрняя сукенка да падлогі, для мужчын — смокінг ці элегантны касцюм. Для гасцей распрацавана цікавая праграма. Ноткі куртуазнасці дадасць Дамскі салон, які будзе працаваць цягам ночы, дзе наведвальніцы пазнаёмяцца з мастацтвам бальнага этыкету, аваладаюць таямніцамі веера і мовай кветак. Паэтычныя салоны прапануюць літаратурныя спаборніцтвы, кінастудыя «Пушкін. *Cinema.by*» пад кіраўніцтвам рэжысёра Сяргея Гіргеля будзе пераварацаць гасцей у акцёраў кіно, а для тых, хто хоча атрымаць унікальныя сувеніры, зладзяць майстар-клас па вырабе навагодніх паштовак.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# «Новы погляд» на вечныя праблемы

Інклюзіўная адукацыя ў крэатыўнай сферы — вельмі маладая з'ява для нашай краіны. Тым не менш «Майстэрняй сацыяльнага кіно» быў арганізаваны праект «Новы погляд», які не толькі тлумачыць, што такое інклюзія, але і дазваляе паглыбіцца ў гэтае паняцце праз кіно.

Каардынатар праекта Канстанцін Варабей: «З самага пачатку мы намагаліся больш шырока падыходзіць да паняцця інклюзіі — гэта не толькі даступнасць для людзей з інваліднасцю і без яе, але і дасяжнасць курсаў для людзей розных узростаў, гендарная роўнасць, цёплая атмасфера і даступнасць у эканамічным плане: курсы былі бясплатнымі, таму іх мог дазволіць сабе кожны ахвотны».

Праект доўжыўся год, і сёлета падсумавалі вынікі: падчас «Новага погляду» правялі 4 адукацыйныя курсы, больш за 470 чалавек даслалі на іх заяўкі, але толькі 85 з іх сталі ўдзельнікамі праекта. За 240 гадзін слухачы курсаў павінны былі папрацаваць над абранай тэмай, а пасля зняць сацыяльны ролік — у выніку атрымалася 12 курсавых работ.

Хлопцы і дзяўчаты вучыліся сцэнарнаму майстэрству, змаглі атрымаць веды па рэжысуры, аператарскім майстэрстве, кінастылях XX стагоддзя і стварэнні сацыяльнага кіно. Нягледзячы на тое, колькі прац атрымалася, колькі ролікаў знялі, праект выканаў самую важную задачу, якая і была пастаўлена напачатку: разбурыць стэрэатып у адносінах людзей з інваліднасцю, даказаўшы, што інклюзіўная адукацыя — гэта не міф і, больш за тое, яна можа існаваць у нашым грамадстве.

Удзельнікі праекта «Новы погляд» здымалі відэаролікі не толькі на тэму інклюзіі — у фільмах прагучалі моцныя выказванні на тэмы хатняга гвалту, аховы жывёл, дарожна-транспартных здарэнняў і нават залежнасці ад камп'ютарных гульняў. Удзельнікі раскрыліся не толькі як рэжысёры, але як аператары, сцэнарысты і акцёры.

У стужках «Бібліятэка» і «Нічога для нас без нас» кінематаграфісты паразважалі на тэму безбар'ернага асяроддзя, раскрываючы яе з новага боку. «Былы сябар» — неверагодна разумны фільм пра (віртуальную) рэальнасць, пра тое, як жыццё становіцца камп'ютарнай гульнёй, а сапраўдныя ўчынкі — проста ходам у анлайн-бойцы. «Ты можаш больш, чым ты думаеш» — пра моцную духам дзяўчыну, якая нават не ўяўляла сабе, на што здольная. Стужка «Перадай дабрыню іншаму» — мілая гісторыя, нават прытча пра тое, як добрым учынкам можна змяніць сябе і наваколле. Дарэчы, пра навакольны свет разважае і рэжысёр «Выратаваных жыўцом» — атрымаўся невялікі роздум пра родную прыроду, месца жывой істоты ў нашым свеце і неабходнасць абарагаць тых, хто не можа паклапаціцца пра сябе сам.

Арганізатары праекта плануюць працягнуць адукацыйныя курсы ў інклюзіўных групах: майстэрня сацыяльнага кіно створыць творчую пляцоўку для ўсіх, хто зацікаўлены ў стварэнні кіно.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Экранныя метамарфозы

## нашага мінулага ў расійскім фільме «Вікінг»

Губляючыся ў стагоддзях, наша гісторыя страчвае сваю велічнасць — забываюцца падзеі, іх удзельнікі і героі, знікаюць дэталі. Збіраць па драбніцах тыя дзяржавы, якія існавалі калісьці не толькі ў падручніках, але і на геаграфічных мапах, сёння спрабуюць кінематаграфісты розных краін.

### Хто забойца?

За першы тыдзень паказу ў Расіі «Вікінг» атрымаў 735 мільёнаў расійскіх рублёў, стаўшы лідарам пракату ў навагодні ўікэнд. У Беларусі ахвотных паглядзець гістарычную стужку таксама хапае, хоць і крыўдна, што на частцы беларускай гісторыі зарабляюць расійскія кінематаграфісты, у той час як нашы рэжысёры не знаходзяць у ёй вартых тэм.

Для Беларусі гэты фільм важны: паказана значная частка нашай гісторыі. Але як яна адлюстраваная? Памылкі заўважаць нават тыя беларускія гледачы, хто атрымліваў на ўроках гісторыі тройкі: хібы ляжаць на паверхні. Для беларусаў эпізоды з жыцця Рагнеды і Уладзіміра са школьных гадоў добра вядомыя, нават вывучаныя на памяць. Мы ведаем, як іх гісторыя пачыналася, памятаем кульмінацыю і заканчэнне. Таму так балюча ўспрымаецца тое, як вобраз нашай нацыянальнай гераіні падаецца ў «Вікінгу».

Полацк і Рагнеда — пачатак шляху да ўзыходжання на вялікакняскі прастол Уладзіміра, які адразу пачынае скараць і падпарадкоўваць. Гэта мы ведаем з нешматлікіх крыніц, якія засталіся як сведкі тых часоў. Фільм з гэтага і пачынаецца. Малады Уладзімір прыязджае ў Полацк з дружынай вікінгаў, каб пасватацца да нявесты. Гордая Рагнеда адмаўляе рабынічу, аддаўшы перавагу яго брату Яраполку. Зняважаны Уладзімір не забывае крыўды. Дзяўчыну бярэ сілай на вачах у бацькоў, самога полацкага князя Рагвалода забівае разам з сынамі. Так і было, ведаем мы. Унутраны супрацiў уключаецца, калі з разбуранага Полацка Уладзімір звозіць Рагнеду (бярэ яе за жонку) і яе маленькага брата: вось жа літасцівы… Далей лінію пра тое, як літасць князя ператваралася ў яго вялікае чалавекалюбства, і будуць развіваць. У тым ліку і праз вобраз Рагнеды.

Яна жыве пры ім у Кіеве, прытым, што ў гістарычных крыніцах ёсць сведчанні, што яна існавала на адлегласці ад князя, які быў нястрыманы ў каханні і меў не адну жонку і шмат наложніц, з якімі прыжыў дзяцей. Але больш за іншых жанчын нашчадкаў яму нарадзіла менавіта Рагнеда. Імя аднаго з іх узгадваецца ў летапісе як абаронцы маці, што ў народзе атрымала імя Гарыслава з-за сваёй нешчаслівай жаночай долі. У фільме яна жыве як хоча, весяліцца падчас рытуальных паганскіх гулянняў, але да пары...

Легендарная гісторыя пра тое, як Рагнеда спрабавала забіць Уладзіміра ў сне, а князь заўважыў гэта, зведала ў фільме значныя змяненні. Па законах таго часу за замах на князя ёй пагражала смяротнае пакаранне, але сын Ізяслаў стаў на абарону маці з мячом у руках. Уладзімір не змог забіць жонку на вачах сына, і баяры (роля якіх наогул не пазначана ў фільме) прынялі рашэнне выслаць Рагнеду і Ізяслава на Полацкую зямлю, якая потым адродзіцца дзякуючы маладому князю.

У «Вікінгу» няма ні гэтай гісторыі, ні самога Ізяслава. Часам нашмат больш увагі аўтары надаюць дэманстрацыі неверагоднай шчодрасці і небывалай дабрыні князя, чым гістарычна важным героям, праз якіх паўстаў бы адваротны бок яго чалавечай натуры. Напрыклад, стваральнікі вырашылі паказаць нараджэнне Святаполка, сына жонкі забітага брата Яраполка, да якой Уладзімір мае вельмі цёплыя пачуцці і абяцае выгадаваць сына як свайго. Менавіта Святаполк з усіх нашчадкаў Уладзіміра здрадзіць яго памяці і развяжа новыя братазабойныя войны. Але нараджэнне іншых дзяцей, якія былі нашчадкамі Уладзіміра, не паказана, прытым, што галоўны спадкаемца князя — яго сын Яраслаў Мудры (які называў сваёй маці Рагнеду). Задача паказаць дабрыню князя магла б быць выканана і без скажэнняў гісторыі праз вобраз тых жа памілаваных Ізяслава з Рагнедай. Але ёй адвялі зусім іншую ролю.

Свавольная і ганарлівая палачанка ў фільме — носьбіт трывалых паганскіх традыцый. Вось і замах на Уладзіміра выглядае як рытуальнае забойства: нібыта па волі паганскіх багоў — нанёсшы на твар кроў, князёўна спрабуе пранізаць Уладзіміра кінжалам. Так, Рагнеда тады не была хрысціянкай, але мела ўяўленне пра мараль: згодна з гістарычнымі крыніцамі, адмовілася выбраць сабе іншага мужа, калі Уладзімір вырашыў адпусціць сваіх жонак і каханак, каб узяць хрысціянскі шлюб з Ганнай Багранароднай. Але стваральнікам фільма, відаць, трэба было падкрэсліць лінію супрацьстаяння хрысціянства і паганства — праз Рагнеду. І тут крыўдна за тую, што лічыцца першай беларускай манахіняй…



*Актрыса Аляксандра Борціч у ролі Рагнеды ў фільме «Вікінг».*

### Чыстая вера

Што тычыцца паганства, то яно ў фільме паказана вельмі красамоўна: з ідаламі ля сцен Кіева, рытуаламі і амаль шаманскімі практыкамі. Магчыма, так і выглядала паганства (мы не можам ведаць). Але і наконт распаўсюджанасці чалавечых ахвярапрынашэнняў у славян няма дакладных пацверджанняў: багі, якім пакланяліся вернікі, былі прыродныя: грому, дажджу, ураджаю і г.д. Але часы Уладзіміра былі крывавыя, а ён быў кіраўнік рашучы і імкнуўся сцвердзіць сябе сапраўдным князем пасля забойства Яраполка. Няўжо падобныя дзействы, калі яны былі, абышліся б без удзелу кіраўніка, які вельмі стараўся спадабацца кіяўлянам, што не адразу яго прынялі? Але ў фільме ён нібыта і не зусім хоча ўдзельнічаць у гэтым: хрысціянка Ірына здзіўляе сваімі расповедамі пра тое, што Бог адзін. Хіба пра гэтага Бога раней не чуў унук княгіні Вольгі, што сімпатызавала хрысціянам (і нібыта стала верніцай яшчэ да афіцыйнага прыняцця хрысціянства на Русі)?

На змену паганству прыйшло хрысціянства з прыгожымі храмамі, выявамі Хрыста, абрадам хрышчэння. Уладзімір каецца неяк вельмі хутка, нібыта раптоўна прачнулася сумленне.

Але пасля ўсяго дрэннага, што зрабіў князь, пасля забойстваў і гвалту, што адбываюцца на экране, у яго шчырае пакаянне не надта верыш, прынамсі, у фільме. Прытым, што да пакаяння мог падштурхнуць і замах Рагнеды (ці не падстава для мужчыны задумацца пра тое, што ён зрабіў з яе жыццём?). І, відаць, мела значэнне патрабаванне новай нявесты з Візантыі: быць адной веры з мужам. Фільм зноў-такі абмінае момант выбару веры, прычым адыгрывалі вялікую ролю на той час і палітычныя матывы.

З гісторыі вядома, што з Візантыі Уладзімір прывёз жонку і новую веру. Але таксама вядома, што на яго Радзіме хрысціянства прымаць не вельмі хацелі — як і ўсё новае, якое без тлумачэнняў насаджалі мясцовым жыхарам. У «Вікінгу» ж шчаслівыя кіяўляне наўпрост забягаюць у ваду, каб хутчэй атрымаць хрышчэнне...

З кніг пра той час паўставаў вобраз князя Уладзіміра як чалавека рашучага, жорсткага, настойлівага. Калі чуеш пра вікінгаў (а менавіта так Уладзіміра назвалі і ў аднайменнай стужцы), то ўяўляецца мужны, смелы мужчына. На жаль, герой Данілы Казлоўскага ў фільме да вікінга не вельмі падобны: часам яго ўчынкі прымушаюць засумнявацца ў яго княскай крыві. Адказнасць за ўсё дрэннае, што адбываецца з ім і вакол яго ў стужцы, бяруць на сябе іншыя персанажы (у большасці — яго памочнік Свенельд). Яны забіраюць грахі князя ў той час, калі сам Уладзімір становіцца проста ахвярай абставінаў, — ні намёку на яго смеласць і самастойнасць.

### У пастцы мінулага

Зніклі ці трансфармаваліся ў стужцы і іншыя героі: часам яны зусім не тыя, кімі здаюцца, ці не тыя, каго лагічна было б бачыць згодна з сюжэтам. Гістарычная праўда не засталася і ў знешнім выглядзе герояў стужкі, нават два браты — Яраполк і Уладзімір — выглядаюць вельмі па-рознаму. Адзін — як сапраўды цывілізаваны князь, другі — як дзікун. Гістарычная праўда не захавалася і ў аблічы старажытных гарадоў. Адразу кідаецца ў вочы неверагодная беднасць, вялікія Кіеў і Полацк, якія былі ўжо тады ключавымі пунктамі, без перабольшання, паказалі дзікімі вёсачкамі. Асабліва гэта заўважна, калі параўнаць славянскія землі, паказаныя ў фільме, з візантыйскімі, дзе глядач убачыць неверагодны прыгажосці замкі і сучасную цывілізацыю, — толькі адтуль магло прыйсці ўсё самае добрае на фоне таго злога, што адбываецца на экране дзве з паловай гадзіны.

Дарэчы, у Расіі «Вікінг» патрабуюць забараніць: аднаўленне гістарычнасці многім падаецца некарэктным, хоць аўтары кіно адзначаюць, што стваралі яго па матывах «Аповесці мінулых гадоў». Дарэчы, ад задумы да рэалізацыі стужкі прайшло больш за 7 гадоў — ад такога зацягнутага працэсу чакаеш і адмысловага выніку.

Сёння гістарычны сюжэт вабіць і прадстаўнікоў кііндустрыі, і гледачоў. Першыя шукаюць цікавыя, фільмагенічныя падзеі ў летапісах, а калі іх не хапае — дадумваюць. Папулярнасць гэтай тэмы сёння проста ўражвае: такой колькасці фільмаў і серыялаў на гістарычную тэму наўрад ці можна ўзгадаць. «Карона» пра каралеву Елізавету, «Вікінгі» заснаваныя на скандынаўскіх сагах. Хапае і псеўдагістарычнага кантэнту кшталту «Гульні тронаў». Менавіта падабенства з гэтым серыялам адзначаюць тыя, хто ўжо бачыў «Вікінга» Андрэя Краўчука (рэжысёр добра вядомы па тэлесерыяле «Вуліца разбітых ліхтароў», фільмах «Адмірал» і «Італьянец»).

Беларускі ж глядач ідзе ў кіно, напэўна, ці па славянскую «Гульню тронаў», ці па сюжэт з падручніка па гісторыі: у Беларусі пра яе, на жаль, не здымаюць. Але калі мы не хочам, каб наша мінулае станавілася адным вялізным скажэннем, каб нашых герояў не ператваралі ў антыгерояў дзеля прыгожых сцэнарыяў, мы павінны здымаць кіно пра сябе самі. Вартых тэм і герояў, пра якіх нічога ў айчынным кінематографе не сказана, нават шукаць не трэба. Ці пакінем іншым?

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Баль зямлі беларускай

**Так называўся дыск з праграмай калектыву «Купалінка», які яны запісалі ў Парыжы пасля перамогі на міжнародным конкурсе ў Пхеньяне ў 1994 годзе. Прэміі, узнагароды, гастролі — творчае жыццё ансамбля зззяла яркімі фарбамі ад самага яго ўтварэння. У снежні 2016 года «Купалінка» адзначыла сваё 50-годдзе вялікім сольным канцэртам.**



Створаны духоўнымі бацькамі Генадзем Цітовічам і Канстанцінам Паплаўскім як квартэт, сёння «Купалінка» — паўнавартасны калектыў, у якім працуюць і спевакі, і музыканты. Генадзь Цітовіч адзначаў, што думкі пра стварэнне квартэту ў яго з'явіліся задоўга да таго часу, як той быў заснаваны. Задума ажыццявілася толькі пасля доўгіх пошукаў таленавітых, здольных выканаўцаў, бо, як музыкант і кіраўнік хору, ён добра ведаў, што голас павінен быць унікальным.

Прайшоў час, зараз калектывам кіруе Алена Цялькова, якая працуе ў «Купалінцы» з першых дзён яе існавання — адразу як спявачка, а цяпер — як творчы настаўнік. Зразумела ж, што з 1966 года шмат што змянілася. З прыходам Алены Сяргееўны творчасць ансамбля стала крыху іншай: «Я ўзяла за аснову больш вольную форму — мы сталі сумяшчаць змешаныя спевы з інструментальным суправаджэннем — для гэтага я ў свой час запрасіла музыкантаў. І амаль адразу нашыя пошукі новага далі вынік: я пачала бачыць, што людзям падабаецца тое, што мы робім».

Мара Алены Цяльковай у тым, каб народнае мастацтва перасталі лічыць другарадным. Ёй хочацца, каб фальклор кранаў і моладзь, і больш сталае пакаленне, каб яны пачалі ім цікавіцца, а не толькі надавалі ўвагу: «Кажуць, што народнае мастацтва — гэта мінулае, якое жыве цяпер, але накіравана на будучыню. А будучыня — гэта якраз моладзь, якой неабходна прывіць любоў да роднага».

Як прыклад Алена Сяргееўна прыводзіць Германію. Яна колькі разоў заўважала, што там у многіх крамах прадаюць нацыянальныя касцюмы: «Вельмі часта ў іх гарадах можна заўважыць дзяцей у такой вопратцы — яны апранаюць яе не на выступленні, а проста так. І мне гэта вельмі падабаецца, бо гэта іх карані, бачна, што ім гэта сапраўды трэба. Мне хацелася б, каб гэта было і ў нас. Тое ж тычыцца і народнай песні».

Цялькову здзіўляе, што песня мае неверагодную моц, кранае, вядзе за сабой. Колькі ўжо сказана пра яднанне падчас выканання фальклорных твораў: «Людзі, якія з'ехалі з Беларусі, часам пішуць нам пра некаторыя песні ў выкананні "Купалінкі". Слухачы пачуваюцца ад гэтых песень шчаслівымі, глыбока іх адчуваюць, і гэта не можа не радаваць».

Несучы роднае слова і беларускія традыцыі праз свет, «Купалінка» ўсё ж не можа задаволіць усіх. Часам выканаўцам кажуць, што яны спяваюць не тыя песні — нетрадыцыйныя, занадта сучасныя ці малавядомая. Цялькова на гэта адказвае рашуча: «Песня — не гляк, яе не паставіш у музей. Мне здаецца, што песня якраз павінна развівацца, яна мусіць прывабліваць слухача, быць цікавай. Менавіта таму я эксперыментую — дадаю ў народную музыку тое, чаго не чакаеш у ёй пачуць: і шум лесу, і крык птушкі, і клёкат бусла. І гэта не гучыць неарганічна, гэта гучыць па-новаму».

«Купалінка» спрабуе папулярызаваць музыку яшчэ і праз літаратуру. На канцэртах можна пачуць песні на вершы Купалы, Коласа, Багдановіча… «Гэта трэба слухаць! Памятаю, як на адным з нашых выступленняў прысутнічала Маргарэт Тэтчэр. Яна спытала ў перакладчыка, што ўяўляе сабой Беларусь, — узгадвае Алена Цялькова. — У адказ яна пачула, што гэта краіна Вольгі Корбут (чатырохразовая алімпійская чэмпіёнка. — **Заўв. аўт.**). Цяпер праз сілу мастацтва пра Беларусь даведаліся ў многіх краінах».

Артыстаў «Купалінкі» Алена Сяргееўна называе сваёй сям'ёй, дзецьмі. Кажа, што ў калектыву ўсё атрымліваецца менавіта з-за гэтай еднасці і рэалізацыі мастацкага кіраўніка ў артыстах. І, зразумела ж, з-за рэпертуару — прыгожай беларускай песні: «У песнях не павінна быць сцвярджэнняў кшталту "гэта спяваць нельга" і "гэта спяваць можна". Гэта мастацтва, і калі яно кранае, то забараняць нешта проста немагчыма. Мне здаецца, што народная творчасць — тая моц, якую губляць не варта. Менавіта гэта дазваляе нам з'ядноўвацца».

Усё ж фальклор у «Купалінкі» асаблівы. Ён ідзе па тонкім лёдзе паміж аўтэнтыкай і сучаснасцю, але моцна стаіць на нагах: «Так, тут вельмі тонкая мяжа. Але фальклор — гэта зерне. Калі яго прыгожа падаць, калі гэта сучасна, то лепш у музыцы нічога не будзе! Зараз шмат кажуць пра плагіят, а ў фальклоры такога не скажаш, гэта наша, народнае. Калі такая песня трапляе ў рукі віртуознага музыканта з добрым густам, то гэта будзе зроблена таленавіта».

Кожны канцэрт з удзелам «Купалінкі» прадугледжвае новую праграму. Канечне, немагчыма, каб кожны раз былі новыя песні, — ёсць і тыя, з якімі калектыў ідзе поруч заўсёды: «Зараз нас запрасілі ў Літву — рыхтуем акадэмічную і фальклорную праграмы. Калі выступаем на "Купаллі" — выконваем летняе, святочнае, лёгкае, калі едзем у Польшчу — абавязкова прывозім польскія песні».

У рэпертуары «Купалінкі» не толькі добравядомыя творы — легендарныя «Рана на Івана», «Чырвоная вішня», канечне ж, «Купалінка». Апошняя, дарэчы, гучыць сучасна: калектыў спрабаваў шмат перапрацовак. Акрамя вядомага, ансамбль выконвае і тое, што слухацкае вуха, хутчэй за ўсё, не чула: «Ёсць пласт песень, якія менш папулярныя ў народзе. Але канцэртную праграму цалкам з іх не пабудуеш. Усё ж каб фальклор гучаў блізка да аўтэнтыкі, каб ён быў чыстым, мы абавязкова дадаём песні малавядомыя».

Варта ўзгадаць хаця б тую ж «Цешчу». Алена Сяргееўна Цялькова з асаблівай цеплынёй ставіцца да яе. Кажа, што па ёй можна заўважыць, як змяняюцца эпохі, як ідзе час, але чалавек застаецца сабой: «Чалавек хоча знайсці каханне і быць шчаслівым! І ў гэтых працэсах часам непасрэдны ўдзел бярэ цешча. У нашай песні цешча — любімы чалавек. Мы спяваем пра любоў. Часам пра тую, якой і не чакаеш. Звычайна зала на гэтай песні ўзрушваецца, бо народны твор — гэта не толькі плач ды смутак. Гэта яшчэ і каханне».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# ЦЁПЛАЯ МУЗЫКА СТУДЗЕНЬСКІХ ВЕЧАРОЎ

**XXIX Міжнародны фестываль класічнай музыкі «Студзеньскія музычныя вечары» ладзіўся на гэтым тыдні ў Брэсце. 9 студзеня ўрачыстасць пачалася грандыёзным канцэртам з выкананнем Пятай сімфоніі Пятра Чайкоўскага, якую лічаць адной з лепшых мелодый на тэму лёсу, напоўненую драматызмам і лірызмам. У фестывалі бяруць удзел больш за 200 выканаўцаў з 11 краін свету, у тым ліку і 4 аркестры.**



*«Студзеньскія музычныя вечары» ў Брэсце.*

Аматары высокай музыкі атрымалі асалоду ад чатырох музычных вечароў і Каляднага балю. Акрамя таго, што мерапрыемства ладзілася ў канцэртных залах Брэста, таксама музыканты выступілі і ў Брэсцкім музычным каледжы імя Р. Шырмы, у Жабінцы і Кобрыне. Для фестывалю гэта новае рашэнне, бо ён упершыню праходзіць у трох гарадах Брэстчыны і на чатырох музычных пляцоўках.

На першым фестывальным канцэрце п'есы для фартэпіяна Дэбюсі і Шапэна выканаў прафесар Парыжскай кансерваторыі Юджын Інджыч. Беларускі піяніст, лаўрэат міжнародных конкурсаў Арцём Канстанцін выканаў фартэпіянныя транскрыпцыі Ферэнца Ліста, а народная артыстка Расіі, прыма Марыінскага тэатра Вольга Барадзіна выканала арыю Даліды з оперы Каміля Сен-Санса «Самсон і Даліла» і песню Лаўры з оперы Даргамыжскага «Каменны госць». Адкрыццё фестывалю стала незвычайным і дзякуючы выступленню маладога піяніста з Мінска Мікіты Шастакова. Музыканту 15 гадоў, але ён ужо стаў пераможцам конкурсу «Маладыя таленты Беларусі» і піша вельмі сур'ёзную для свайго ўзросту музыку. На «Студзеньскіх вечарах» артыст выканаў уласны твор, які прысвяціў памяці кампазітара Сяргея Рахманінава.

У музычным каледжы імя Шырмы выступілі музыканты з Японіі, Украіны, Францыі, Польшчы і Беларусі, а таксама там можна было пачуць неверагодную музыку ад квартэта драўляных духавых інструментаў «Рыўера». У Жабінцы і Кобрыне аматары саксафоннай музыкі змаглі далучыцца да мастацтва праз творчасць ансамбля «*SAX-A-LOT*» з Нідэрландаў, паслухаць украінскі дуэт баяністаў і кампазітараў з Беларусі.

Кожны з вечароў быў прысвечаны адмысловай тэме. У музычным вечары рамансa ўзялі ўдзел расійскі выканаўца Уладзімір Кудашоў і ўкраінскі выканаўца Сяргей Шарамет, а ўзорам класічнага вакалу стала салістка Вялікага тэатра Расіі Марына Гарэлава. Трэці вечар, прысвечаны «Музычнай Еўропе», стаў падарункам для тых, хто чакаў сустрэчы з камерным аркестрам з Польшчы «Акадэмія Дэль Арка». У гэты ж вечар аматарам класікі давялося пачуць дзясятак піяністаў з Расіі, Кітая, Японіі, ЗША і Нідэрландаў.

Апошні вечар стаў не толькі лагічным завяршэннем, але і казачным святам. Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь, віртуозны піяніст і польскі кампазітар Канстанцін Віленскі, Брэсцкі гарадскі аркестр духавой і эстраднай музыкі пад кіраўніцтвам Валерыя Коваля... Шмат сустрэч сталі сюрпрызамі слухачам ад арганізатараў фестывалю.

Арганізатары «Студзеньскіх музычных вечароў» — Брэсцкі абласны і гарадскі выканаўчыя камітэты, Брэсцкая музычная супольнасць і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Фестываль прайшоў ужо ў 29-ы раз, а за чатыры дні (хоць падрыхтоўка да мерапрыемства доўжылася больш за паўгода) на сцэне выступілі сапраўдныя віртуозы музычнага мастацтва. Лілія Батырава, дырэктар «Студзеньскіх музычных вечароў», імкнулася, каб «праграма стала сусветнай ва ўсіх сэнсах».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Метафара жыцця

## ў ляльках выстаўкі «Панна Doll'я»



Лялькі Надзеі Цыганоўскай.

У жыцці кожнага была ці ёсць любімая лялька — своеасаблівы сімвал дзяцінства, пяшчотнай непасрэднасці, з якой дзяліўся думкамі, сакрэтамі, расказваў пра мары альбо ўвогуле планаваў кругасветнае падарожжа. Аднак лялькі не толькі сябры па лёсу, самыя адданыя слухачы і захавальнікі таямніц, яны яшчэ з'яўляюцца атрыбутамі дзяцінства альбо здольныя ўпрыгожыць хатні інтэр'ер. Падчас доўгачаканых калядных свят у Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў (пр-т Незалежнасці, 47) была прэзэнтавана міжнародная выстаўка аўтарскай лялькі «Панна Doll'я». У межах экспазіцыі дэманструюцца чатыры асобныя выстаўкі: мастачкі, аўтара тэкстыльных твораў Таццяны Хаберскай, мастакоў Ганны Сілівончык і Васіля Пешкуна, скульптара і ювеліра Марыны Капілавай, стваральніка абярэгаў Гульнары Качан.



Таццяна Хаберская «Жабіна царства».

Удзел у праекце ўзялі лепшыя майстры аўтарскай лялькі Беларусі, Расіі, Эстоніі, Латвіі, Літвы і іншых краін. Творцы прадстаўляюць лялькі, вырабленыя ў розных тэхніках: тэкстыльныя, фарфоравыя, з дрэва, ёсць статычная экспазіцыя і калекцыя шарнірных лялек. У арт-праекце прадстаўлены работы як знакамітых майстроў, так і аўтараў-пачаткоўцаў.

— Ёсць імёны, знаёмыя аматарам аўтарскай лялькі многія гады: гэта і сям'я Байрачных, вельмі цікавы і запамінальны аўтар Марына Скідан, — расказвае арганізатар і ўдзельнік арт-праекта Надзея Цыганоўская. — З новых аўтараў — Таццяна Палякова, Яўген Лукашэвіч, Юрый Шароў. Гэтая выстаўка ўжо чацвёртая, і кожны раз майстры здзіўляюць гледача новымі цікавымі і запамінальнымі работамі. Як аўтар выстаўкі, я шчаслівая, што за кароткі перыяд існавання праекта «Панна Doll'я» ў нашай краіне з'явілася шмат імёнаў, якімі можна ганарыцца. У 2016 годзе выйшаў каталог работ лепшых майстроў Еўропы. Я і Галіна Дзмітрук прадстаўляем у ім Беларусь. Гэта высокая і годная адзнака нашай творчасці.



Таццяна Палякова (Беларусь). Лялька «Панна Doll'я».

Лялькі на любы густ — менавіта так пазіцыянуюць выстаўку арганізатары. І сапраўды, экспанат знойдзецца для любога гледача. Для тых, хто цікавіцца гісторыяй, — калекцыя антыкварных лялек альбо лялькі ў адзенні з арнаментамі, лялькі-абярэгі, для тых, хто аддае перавагу плюшавым героям, — сімпатычныя мішкі Тэдзі, пухнатыя зайкі і мышы. Знойдуць творы па душы прыхільнікі гламуру: у экспазіцыі можна прасачыць як сучасныя тэндэнцыі ў адзенні, так і гісторыю моднай індустрыі.

Гэта той самы выпадак, калі трапляеш на выстаўку і адчуваеш, што апынуўся за межамі рэальнасці. Кожны экспанат нагадвае пэўнага персанажа кнігі альбо мастацкага фільма з захапляльным сюжэтам. Адразу пачынаеш атаясамляць лялькі з рознымі гісторыямі, успамінамі: такога мядзведзя мне сшыла бабуля, пра такую доўгавалосую ляльку я марыла ў дзяцінстве, а гэтая жанчына ў фартуху нагадвае нашу ўсмешлівую суседку, якая любіць частаваць смачнымі пірагамі. Усе ўспаміны цёплыя, трапяткія, звязаныя з чымсьці родным.

На думку Галіны Дзмітрук, лялькі — метафара жыцця, праз іх можна стварыць альбо гармонію, альбо сум. Але ж большасць творцаў імкнуцца ідэалізаваць свет. За гэтым — прыцягненне дабра, радасці ў жыццё.

Напрыклад, тэкстыльныя жабкі Таццяны Хаберскай абсалютна супрацьпастаўленыя іх успрыманню ў рэальным жыцці: мяккія і радасныя, усмешлівыя, яны захапляюць сонечнасцю, дабрынёй. Драўляныя творы Юрыя Шарова — проста шэдэўры: музычныя скарбонкі з пяшчотнымі мелодыямі зачароўваюць не толькі знаёмымі матывамі, але і сістэмай стварэння. Лялькі Ірыны Бельскай нагадваюць драўляныя скульптуры.

— Калі я пачала працаваць з дрэвам, то стварала плоскія інтэр'ерныя статуэткі звяроў і анёлаў, прадметы інтэр'еру з дошак, — расказвае Ірына Бельская. — І, назапасіўшы пэўны досвед, неяк інакш зірнула на цыліндрычныя галінкі і паленне. Вельмі захапіла ідэя, што з іх можна выразаць прымітыўных чалавечкаў. Паспрабавала зрабіць першага чалавечка з галінкі. Пазней стала эксперыментаваць з паленамі. Можа, мае лялькі занадта простыя і наіўныя, але гэта тое, што мне блізка, што знаходзіць водгук у сэрцы. З гэтымі лялькамі я яшчэ ў пачатку шляху. Але ж у мяне яшчэ ёсць так званая лялька мастака з тканіны — гэта лялька-сполах. Калі пішу карціны, як любы мастак, спачатку прамакваю, а пасля выціраю пэндзаль аб кавалачак тканіны. І ў выніку тканіна атрымліваецца такая маляўнічая, што я вырашыла пашыць з яе лялечку і нават падумала, што для кожнай карціны можна займець чыстую анучку, а пасля шыць. Так разам з кожным новым творам з'явіцца яшчэ і свая лялька. Кажуць, што ў кожнай лялькі сваё жыццё, але стараюся пра гэта не думаць, можа, і баюся іх, але веру: лялька можа саграваць сэрца і дарыць радасць. Мне заўжды цікава разважаць, як лялька трапляе да кагосьці ў дом, як чалавек адчувае, што гэта менавіта яго лялька, і набывае яе. Гэта так цудоўна, калі чалавек выбірае пачуццямі.

**Вікторыя АСКЕРА**

*Увага: конкурс!*

# Новы год — новы ракурс

Цягам мінулага года крэатыўныя і зацікаўленыя чытачы «ЛіМа» дасылалі ў рэдакцыю фотаздымкі на конкурс «Культурны ракурс». Дзякуючы іх неабыякавасці на старонках выдання з'яўляліся фотаматэрыялы пра вядомыя і невядомыя помнікі культуры і гісторыі Беларусі. Мы з задавальненнем назіралі інтарэс нашых чытачоў да культурнай спадчыны краіны, да ўнікальных аб'ектаў беларускай глыбінкі. Абраць пераможцаў сярод мноства годных работ было сапраўды цяжка. Конкурс завершаны і... не завершаны! Новы этап — новы ўзровень! У 2017 годзе работы ўдзельнікаў «Культурнага ракурсу» будуць ацэньвацца ў дзвюх намінацыях: «Самае арыгінальнае фота» і «Самы арыгінальны тэкст». Патрабаванні да фотаздымкаў застаюцца нязменнымі: у цікавым ракурсе сфатаграфаваць аб'ект, які з'яўляецца часткай культурнай спадчыны Беларусі, ці сфатаграфавацца каля яго і даслаць фотаздымак на электронны адрас газеты (*lim_new@mail.ru*). На конкурс прымаюцца нават сэлфі, але ўсе здымкі павінны быць не традыцыйнымі карткамі «з сямейнага альбома», а крэатыўнымі і запамінальнымі работамі: фатаграфія як від мастацтва заўсёды патрабуе творчага падыходу! Шукайце незвычайныя ракурсы, нестандартныя падыходы ды арыгінальныя задумы.

А яшчэ мы прапануем пашырыць межы самога паняцця «культурны аб'ект» і разглядаць яго не толькі як помнік (архітэктуры, скульптуры, гісторыі, мастацтва, пісьменства і г.д.), але і як унёсак у культуру пэўнай асобы. Да ўдзелу ў «Культурным ракурсе» прымаюцца фотаздымкі з вывамі людзей, занятых у беларускай традыцыі: вышываннем беларускіх узораў, разьбой па дрэве, майстраваннем народных строяў ды вырабаў з розных матэрыялаў...

Спадзяёмся, што новыя ўмовы конкурсу нагадаюць чытачам: культура — гэта ў першую чаргу людзі, якія ствараюць яе сваёй штодзённай працай, захоўваюць і ўвасабляюць гісторыю традыцыі ў сучаснасць. А напрыканцы года карэспандэнт газеты «Літаратура і мастацтва» наведае самага цікавага героя матэрыялу, каб паўней распавесці пра яго працу і побыт.

Намінацыя «Самы арыгінальны тэкст» павінна засведчыць пра тое, што нашы чытачы творчыя і дасведчаныя людзі, здольныя не спампаваць апісанне аб'екта з «Вікіпедыі», а стварыць прыгожы і непаўторны аўтарскі тэкст. Гэтым разам рэдакцыя «ЛіМа» будзе асобна разглядаць тлумачальныя матэрыялы да фотаздымкаў і вызначыць сярод іх самы якасны і цікавы.

Лепшыя работы будуць апублікаваныя, а пераможцы ў намінацыях атрымаюць прызы. Чакаем вашых фота з тэкстамі на працягу ўсяго года і разлічваем на нязменную цікаўнасць да беларускай культуры!

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
12.01.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1637.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 186

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686